

Інфармацыйны грамадзка-аналітычны часапіс Грамадзкага Аб'яднаньня **"Цэнтр Інфармацыйнай Падтрымкі Грамадзкіх Ініцыятываў "Трэці сектар"**. Непэрыядычнае выданьне ў беларускай мове. Распаўсюджваецца **бясплатна**. Наклад нумару — **299** асобнікаў. Выдаецца пры падтрымцы Праграмы TACIS у межах праекту „Павышэньне эфэктыўнасьці дзейнасьці грамадзкіх арганізацыяў Гарадзеншчыны". Пры передруку просім рабіць спасылкі на **"Трэці сэктар"**. Рэдактар **Вітаўт Руднік**. Тэхнічны рэдактар **Юры Тарасевіч**. Стыль-рэдактар **Валеры Руселік**. Мастак **Алесь Сураў**. Удзел у працы над нумарам бралі: **Сьвятлана Руднік**, **Андрэй Мялешка.** Памнажэньне — Грамадзкае Аб'яднаньне **"Ратуша"**. Наш адрас: **А/С 54, 230009 Гродна, Беларусь.**
Тэлефон/факс: **+375 (152) 96-74-78**.
Internet: **sektar@iname.com, http://sektar.cjb.net**

**Зьмест нумару**

Адчуваем сябе патрэбнымі ! · · · · · · · · 1
Антон Лабовіч: На пераправе трэба замяніць коней · · · · · · · · · · · · · · · · · · 2
Суд перанесены · · · · · · · · · · · · 3
Штрафы й пагрозы ўдзельнікам выбарчай і мабілізацыйнай кампаніяў · · · · · · · · 3
Спэцвыпуск газэты „Разам" · · · · · · · · 4
Выбары прайшлі, праблемы засталіся · · 4
Пэрспэктывы супрацоўніцтва залежаць ад выбараў · · · · · · · · · · · · · · · · · 4
Даніла Жукоўскі: Пасткі мадэрнізацыі(II-IV) 5
Ствараецца сетка жаночых арганізацыяў · 11
„STOP — ГЭС!" · · · · · · · · · · · · · 12
Прыбралі Швайцарскую Даліну і прылеглыя тэрыторыі Старога парку · · · · · · · · · 12
Паслухайце крык цішыні... · · · · · · · · 13
"А ты над возерам плыў?..." · · · · · · · 14
Бізнэс-тыдзень для беларусаў · · · · · · 16
Дзень Маці ў Смаргоні · · · · · · · · · · 16
Візыт у Летуву · · · · · · · · · · · · · 16
Юры Качук: З надзеяй на лепшае · · · · · 17
Ці мы ў стане?.. · · · · · · · · · · · · 18
Для Вас, кабеты... · · · · · · · · · · · 18
Нараджаем разам? · · · · · · · · · · · 19
Каўнтэрпарт абвяргае чуткі · · · · · · · 19
Антон Лабовіч: Святкаванне на касцях продкаў? · · · · · · · · · · · · · · · · · · 20
Канфэрэнцыя, прысьвечаная краявіду · · 21
Новы спабор САР · · · · · · · · · · · · 22
Дапамога ў самастойнай адукацыі - па ліцэнзіі · · · · · · · · · · · · · · · · · · 22
Праграма ISAR
"Зьберажы росы белыя" · · · · · · · · · 23
Спабор Эўрапейскай Камісіі · · · · · · · 23
"Твая будучыня залежыць ад Цябе!" · · · 24
Распачаўся новы супольны праект · · · · 24
Разьвіваем грамадзкі сэктар · · · · · · · 24



**Тысячы людзей на Гарадзеншчыне і за яе межамі даведаліся пра магчымыя нэгатыўныя наступствы будаўніцтва плацін на Нёмане й яго прытоках. Гэта сталася магчымым дзякуючы праекту, які на працягу красавіка-чэрвеня 2001 году ладзіла экалягічная група грамадзкага аб'яднаньня „Цэнтр "Трэці сектар" (гл. ст.12).**

# Адчуваем сябе патрэбнымі !

**Так сталася, што дата нядаўніх прэзыдэнцкіх выбараў у нашай краіне супала зь пятымі ўгодкамі афіцыйнае рэгістрацыі „Цэнтру "Трэці сектар". Народ выбіраў (ці за народ выбіралі?) прэзыдэнта. А ў нас была чарговая нагода спраўдзіць, ці правільны шлях быў абраны намі ў далёкім 1997-ым.**

Зь першых дзён існаваньня мы паставілі сабе за мэту інфармацыйную дапамогу тым людзям і арганізацыям, якія імкнуліся да пазытыўных перамен у грамадзтве, да ўдзелу максымальна магчымай колькасьці грамадзянаў у жыцьці як мясцовай супольнасьці, так і краіны. Мы пачыналі з чатырох старонак бюлетэня, дзе пісалі пра дзейнасьць гарадзенскіх НГА, прадстаўлялі актывістам грамадзкага руху інфармацыю пра магчымасьці разьвіцьця. Сёньня мы маем гэты часапіс, штотыднёвую электронную „Кроніку грамадзкага жыцьця Гарадзеншчыны", „Навіны ад "Цэнтру „Трэці сектар", сваю пляцоўку ў Інтэрнэце. Нашыя лепшыя выпускнікі „Школы маладога журналіста" сёньня пасьпяхова працуюць у мясцовым і агульнакраёвым друку, у інфармацыйных агенцыях і выданьнях НГА.

Мы ведаем, што на нашым шляху былі памылкі, што можна было б працаваць і больш якасна. Не аднойчы ў галаву прыходзіла пытаньне: „А ці патрэбна гэта каму-небудзь наагул?". Але, калі кожны дзень у офіс арганізацыі заходзяць альбо тэлефануюць людзі з пытаньнямі кшталту: „А калі будзе набор у "Школу маладога журналіста"?", „А ці будзе сёлета курс "Школа эканамічнай самастойнасьці" для жанчын"?", „Ці не падкажаце, куды можна зьвярнуцца за дапамогай?", - адказ прыходзіць сам. Мы адчуваем сябе патрэбнымі й будзем рабіць усё, каб заставацца такімі й надалей.

У нашых плянах — працяг праграм "Інфармацыйная падтрымка грамадзкіх ініцыятываў" і "Грамадзянская адукацыя ў галіне журналістыкі". З гэтага году распачалася актыўная праца ў межах праграмы "Дыялёг", накіраванай на паляпшэньне ўзаемадзеяньня паміж арганізацыямі трэцяга сэктару, журналістамі й мясцовымі ўладамі ў справе разьвязваньня сацыяльных праблем. Будзе разьвівацца таксама праграма падтрымкі жаночых ініцыятываў на Гарадзеншчыне.

А з нагоды пятых угодкаў арганізацыі шчыра дзякуем усім, хто быў гэтыя гады разам з намі, дапамагаў працай ці добрым словам. Спадзяемся на гэтае і ў будучыні.

**Рэдактар**

# Выбары прайшлі, праблемы засталіся

**Ці паўплывалі выбары на сытуацыю ў вашай арганізацыі? У чым вы бачыце першачарговыя задачы сваёй арганізацыі ў бліжэйшыя часы? Такія пытаньні мы задалі лідэрам некаторых грамадзкіх арганізацыяў Гарадзеншчыны.**



**Валянціна Радзівонцава (Цэнтар „Сям'я", Гародня)**

1) Нічым не паўплывалі.

2) Скончыць рамонт і рэканструкцыю Дома Міласэрнасьці, разьвіваць праграму "Брат і Сястра" і працягваць аказваць гуманітарную дапамогу.



**Міхась Варанец („Воля да разьвіцьця", Слонім)**

1) Па вялікаму рахунку, нічым не паўплывалі.

2) На маю думку, зараз – пэрыяд зацішша. Трэба спакойна агледзецца. Да Новага году павінен прайсьці пэрыяд пераасэнсаваньня сваёй дзейнасьці на будучыню.



**Валянцін Аскірка („Маладая Грамада", Гародня)**

1) Не паўплывалі, таму што былі некалькі заранёў заплянаваных напрамкаў працы.

2) Ажыцьцяўляць як мага большае інфармаваньне пра нашыя віды дзейнасьці. Асноўныя высілкі будуць накіраваныя на вольны час, адпачынак ды адукацыю. А таксамака будуць вызначаныя нашыя наступныя віды дзейнасьці.



**Валянціна Танеева (Асацыяцыя шматдзетных бацькоў, Смаргонь)**

1) Выбары ня значна паўплывалі на сытуацыю ў нашай арганізацыі. Бо ўсе нашыя праблемы як былі да выбараў нашымі, гэтак і пасьля засталіся толькі нашымі, а хацелася б, вядома, каб праблемы шматдзетных сем'яў сталіся праблемамі дзяржавы.

2) Першачарговую задачу я бачу ў адукацыі максымальнай колькасьці сябраў нашай арганізацыі. Галіны ведаў самыя разнастайныя: ад працы ў грамадзкіх арганізацыях да юрыдычных.

Пакуль ня зьменіцца наш сьветапогляд у цэлым - мы нічога ня здолеем зрабіць. Таму - веды, веды й яшчэ раз веды!

І хто ведае, магчыма, праз год-два будзе не "Народ для ўлады", а ўсё-ткі "ўлада для народу". Гэта нармальная мара мнагадзетнай маці.



**Канстанцін Ермаловіч („Сьлед Чарнобылю", Наваградак)**

1) У нас такі кантынгент, што на нас гэтыя выбары не паўплывалі.

Адныя - згодныя, іншыя - не. А трэцім - і так, і гэтак добра. На маю думку, гэтыя выбары прайшлі нармальна і 72-75% згодныя з абраньнем гэтага прэзыдэнта.

2) Нашая галоўная задача - дабіцца выхаду за мяжу праз Інтэрнэт, электронную пошту. Для таго, каб нашыя дзеці й моладзь атрымалі чыстую ежу, мэдыкамэнты, вітаміны. Ужо зараз гэтая задача пачынаецца выконвацца: хутка прыйдуць грузы адзеньня з Ангельшчыны і зь Нямеччыны.

**Апытаньне "ТС"**

## Пэрспэктывы супрацоўніцтва залежаць ад выбараў

**З 29 чэрвеня на 3 ліпеня ў нямецкім горадзе Міндэне знаходзілася дэлегацыя з Гародні, якая складалася з прадстаўнікоў дзяржаўных установаў і грамадзкіх арганізацыяў гораду.**

Візыт меў на мэце ўдзел у сьвяткаваньні 10-годзьдзя ўсталяваньня сяброўскіх сувязяў паміж гарадамі. У складзе запрошаных былі мэр Гародні А. Пашкевіч, ягоны першы намесьнік сп. Кунаш, выкладнікі нямецкай мовы Гарадзенскага унівэрсытэту, настаўнікі нямецкай мовы зь сярэдніх школ, старшыня праўленьня грамадзкага аб'яднаньня „Цэнтар міласэрнасьці "Сям'я" В. Радзівонцава і інш. Афіцыйная дэлегацыя на чале з А. Пашкевічам, аднак, прыехаць не змагла. У час візыту былі падведзеныя вынікі двохбаковага супрацоўніцтва ў галіне спорту, мастацтва, культуры, адукацыі, а таксама акрэсьленыя пэрспэктывы далейшай супрацы. Нягледзячы на пазытыўны тон сустрэч, нямецкі бок даў адназначна зразумець, што аб'ёмы супрацоўніцтва з нашай краінай абумоўлены палітычным курсам беларускіх ўраду і прэзыдэнта. Чарговы візыт немцаў на чале з бургамістрам гораду-братанка Міндэна ў Гародню чакаецца ў кастрычніку гэтага году. Вынікі выбараў ужо вядомыя...

**Вадзім Дзёмін**

## Спэцвыпуск газэты „Разам"

**Напрыканцы верасьня пабачыў сьвет спэцвыпуск гарадзенскага выданьня Канфэдэрацыі дзеючых суполак (КДС) „Разам".**

Асноўнай тэмай нумару сталася сытуацыя ў краіне пасьля прэзыдэнцкіх выбараў 2001-га году. Газэта была надрукаваная на газэтнай паперы й раскідвалася па паштовых скрынках жыхароў Гародні.

**Андрэй Мялешка**



# Даніла Жукоўскі: Пасткі мадэрнізацыі (часткі II-IV)

### II. Спакуса

*- Ну, дзядзька, як на смак, прызнайся?*
*- Паскудства, брат, і не пытайся!*
*Я.Колас „Новая зямля"*

**Адраджэнне пасадаў сёння немагчымае. Сёняшнія рэдактары з незалежных выданняў ня могуць прэтэндаваць на ўладу, якую мелі колішнія з дзяржаўных. Але для іх з'явілася іншая спакуса: вызваліцца ад усіх забавязанняў, самавыявіцца ў абсалютнай свабодзе.**

У сярэдзіне дзевяностых гадоў адзін амерыканец параўнаў расейскую прэсу з падлеткам, які, нарэшце, трапіў за стырно аўтамабіля і хоча ехаць у кожным напрамку і з вялікаю хуткасцю, ды ня мае ані правоў, ані бензіну. У Беларусі падобная сітуацыя з культуралагічнымі выданнямі, якія займелі магчымасць існавання, але не вызначыліся пакуль з канцэпцыяй сваёй дзейнасці.

Нашых „падлеткаў" прыцягваюць два маршруты:

I. Традыцыйны, але закінуты „Шляхам Гердэра і Багушэвіча". Тут да мастацтва ставяцца з пашанаю як да сродку стварэння нацыі, вераць у яго стваральную ды выхаваўчую моц. Таму тут абавязваюць даволі жорсткія этычныя крытэрыі, пэўныя абмежаванні стылю і тэматыкі. Для ацэнкі твора важныя змест і ідэйная скіраванасць, якія ацэньваюцца з пазіцый адпаведнасці нацыянальнай ідэі.

II. Шырока разрэкламаваны „Шляхам постмадэрнізму". Тут да мастацтва ставяцца лёгка, як да гульні ці спорту, бо зняверыліся ў здольнасці мастацтва выконваць нейкія функцыі акрамя чыста эстэтычных. Мастацтва лічыцца вольным ад усіх абмежаванняў, у тым ліку этычных. Адмаўляецца ацэнка твора на іншых падставах, чым вызначаныя аўтарам.

Абодва падыходы адначасова маніфестуюць нашыя культурныя дзеячы, найперш рэдактары. (Пагартайце хаця б Arche/Скарына 1'2001.)



Але ж як іх спалучыць, каб не было як з клёцкамі і бярозавым сокам?

Калі гаварыць пра постмадэрнізм у чыстым выглядзе, то гэта цікавая гісторыя. Спачатку пра яго не адзін год (!) таямніча і ганарліва згадвалі „прасунутыя" і „далучаныя", ня выкладаючы сутнасці справы прафанам. Адчувалася перакананне, што дэкларацыя сама па сабе абавязвае да захаплення. Таямніца распалася са з'яўленнем адпаведнага нумару „Arche", за што рэдакцыі вялікі дзякуй. Адолеўшы адпаведную колькасць старонак, чытач атрымаў нарэшце больш канкрэтнае ўяўленне пра з'яву.

Сутнасцю постмадэрнізму, мяркуючы па названай крыніцы, можна лічыць адмаўленне ад іерархіі каштоўнасцяў. Няма добрага і лепшага, ёсць такое і гэткае. Панятак каштоўнасці мае ў постмадэрнізме ня той сэнс, да якога мы прызвычаіліся. Каштоўнасцю можа быць аб'яўлена ўсё што заўгодна. Нішто ня можа быць абсалютнай каштоўнасцю. Адзнаку „Каштоўнасць" можна начапіць, перачапіць ці схаваць у кішэнь па волі творчае асобы.

Зернейка трапіла ў падрыхтаваную глебу. „Перабудова" выявіла найглыбейшы крызіс культуры беларускага грамадства. Знішчаныя, лічы, усе аўтарытэты (акрамя хіба класікаў - Купалы, Коласа, Багдановіча). Дзеючыя пакаленні творчае інтэлігенцыі апынуліся ў незайздросным становішчы. Старэйшыя - скампраметаваныя сваёю савецкасцю, адсутнасцю духоўнага супраціву, малым наробкам вольнае культуры. (Прыгадаем у чарговы раз, што ў беларускай літаратуры амаль няма твораў з шуфляды, там іншы раз хаваюцца найбольш ідэалагізаваныя тэксты - цікаўным раю дзённікі П. Панчанкі ў „Полымі" за 1998 год.) Маладзейшыя - непадрыхтаваныя да ролі правадыроў нацыі, без традыцый вольнасці, без канструктыўнае праграмы. Пачуццё адасобленасці паглыбілася з пачаткам рэваншу, пасля 1994 года. Творцы схільныя лічыць сябе цэнтрам сусвету, самотны творца - пагатоў. Лозунгі постмадэрнізму лёгка знаходзілі дарогу да сэрцаў, спавітыя прывабным вэлюмам „заходняе штучкі". Вынікі ня прымусілі сябе чакаць, але пройдзе яшчэ цімала часу, пакуль яны будуць належным чынам асэнсаваныя, пакуль узважаць на дасканалых шалях добрае і дрэннае.

На маё вока - зашмат дрэннага. Не бяруся рабіць колькасны падрахунак. Засяродзімся на тым, ад чаго варта пазбаўляцца. Адсюль крытычны ўхіл гэтых нататак. Гаворка не пра недахопы асобных аўтараў у асобных творах, а пра больш маштабныя і небяспечныя з'явы.

Пачнем з яскравага прыкладу. Часопіс „Arche" быў шырока рэкламаваны як часопіс адраджэнцкі. Ягоныя заснавальнікі дэкларавалі шляхам выдання часопіса мацаваць незалежнасць Беларусі. Вельмі канкрэтная заява. Паглядзімо на справу. Першы нумар: „Парнаграфія". Потым – „Постмадэрнізм", „Вялікая Айчынная вайна", „Медыцына", „Слоўнік свабоды", „Жыдоўскі", „Паталогіі грамадства". Я не імкнуўся пералічыць усё і па-парадку, але зафіксаваць імідж выдання. Выразны постмадэрнісцкі імідж.

Прыемна было даведацца: не толькі ў мяне ёсць сумненні, што незалежнасць Беларусі лепей за ўсё мацуецца даследаваннем парнаграфіі. М.Скобла запытаўся пра гэта ў маладога рэдактара-інтэлектуала - і пачуў у адказ, што гэта вельмі балёвая (аўтарскае слова, паходнае ад „боль") тэма, важная для беларускага грамад-

ства, што рыхтуецца новы нумар, пра гамасэксуалізм. Таксама балёвая тэма, закранае, кажа рэдактар-інтэлектуал, інтарэсы пяцёх працэнтаў насельніцтва. Мо' яно й так, але пры чым тут незалежнасць Беларусі?

У адным я згодны са сп-ром рэдактарам (але гэта не гучала ў той размове) - у беларускіх патрыятычных спевах, кажучы дыпламатычна, трэ' мяняць кружэлку. Стогны і енкі над мовaю, вершы і проза на капыл XIX стагоддзя зужыліся дашчэнту. Карыстаючыся бліскучаю фармулёўкаю з ягонага даўняга артыкула ў „НН“, беларуская культура глядзіць на свет праз нямытыя шыбы. Трэба змяніць гэта, вымыць шыбы. Замест мыцця на брудзе пальцам пішацца непрыстойнае слова і праз атрыманую чыстую плямку спрабуюць ганарліва глядзець на наваколле.

Першая спакуса „пастмадэрнізму“ - ісці лёгкім шляхам. Навошта вырашаць праблему сталення нацыі сучаснымі сродкамі і катэгорыямі, церабіць тракт Гердэра-Багушэвіча ў пушчах XXI стагоддзя! Можна ўзняць „балёвую“ тэму. Першае трэба рабіць самым. Гатовага рашэння няма, бо амаль усе народы Еўропы (і ня толькі) прайшлі гэта дзесяцігоддзі (ці стагоддзі) таму. Другое можна перанесці цалкам, амаль не перарабляючы, бо гэтым сёння занятыя людзі там, дзе праблемы іншага плану даўно прайшлі фазу першаснага развязання.

Пытанне зусім не так стаіць, што нейкія тэмы ня варта ўздымаць, што іхняе абмеркаванне нейкім чынам шкодзіць. Але ёсць тэмы важныя, ёсць важнейшыя. Постмадэрнізм робіць выгляд, што гэта не так. Пытанні нацыянальнага вызначэння закранаюць усіх насельнікаў Беларусі. Але ўздымаць іх па-новаму - найцяжэйшая справа. Спакуслівa абысці перашкоду дужа сучасным спосабам.

Постмадэрнізм, па маім меркаванні, не з'яўляецца чымсьці скрось шкодным, тым больш – дрэнным. Гэта адна з тэхналогій дасведчанае культуры, якая зужыла іншыя сродкі, працавала сваю ніву (то бок сваё грамадства), даследавала традыцыйнымі спосабамі ўсё і, адчуўшы невычэрпнасць пазнання, спрабуе неразвязаныя таямніцы адолець новым прыёмам. Гэткі падыход падаецца вартым увагі. Але, дадаючы да творчага арсеналу адну маленькую прыладу, постмадэрнізм стварае шматлікія спакусы. Ідэя зігнараваць звыклую іерархію мае глыбокі сэнс, але ўжываць яе трэба з розумам: лёгка прыпадобіцца да лекара, які робіць пацыенту касметычныя працэдуры, калі таго трэ' нагвалт цягнуць у рэанімацыю.

Не мы першыя сутыкнуліся з гэтай пасткай. Яна мае сваю назву.

„Ёсць схематычнае фармалістычае думанне, якое не дазваляе ані жыцця, ані непасрэднага інтуітыўнага бачання - культурны утапізм. Ён з'яўляецца кожны раз, калі нейкія прынцыпы - інтэлектуальныя, маральныя, палітычныя, эстэтычныя або рэлігійныя - бяруць без папярэдняга выпрабавання...“ (Хасэ Артэга-й-Гасэт. Тэма нашага часу. 1923 г.)

Стаўленне наватараў да постмадэрнізму вельмі падобнае да стаўлення традыцыяналістаў да сваіх ідалаў, якія, насуперак павярхоўнаму ўражанню, маюць мала агульнага з багушэвічавымі прынцыпамі асветніцтва - да памылкі штурхае непазбыўна старасвецкі знешні выгляд. Пераемнасць пакаленняў, а дакладней - аднолькавае падпарадкаванне накінутым стэрэатыпам дзеяння. Тут корань праблемы, але гэта асобная тэма.

Угледзімся ў дэфініцыю. Адной з праяваў утапізму ёсць адмаўленне мяжы паміж жаданнем і рэчаіснасцю. „Does the firm persuasion that a thing is so, make it so ?“ - пісаў паэт. І сам жа адказваў: „All Poets believe that it does.“ („Ці насамрэч цвёрдае перакананне стварае рэч паводле гэтага перакананя?“ „Усе паэты вераць, што так.“ (Ўільям Блэйк, „Унія нябёсаў і пекла“) Трэба толькі, як раіў ужо наш класік, практыкавацца ў веры. Агледзім жа некаторыя практыкі.

Выданні поўняцца творамі малых жанраў, але вялікіх амбіцый. Дзённікавыя запісы, падарожныя нататкі, абразкі, афарызмы... Бізнэсмэн-літаратар, дае вострыя характарыстыкі ня толькі жывым братам па варштаце, але і класікам усясветнае літаратуры. Дужа рэвалюцыйны шмат у якіх пытаннях паэта друкуе пра калегаў падрабязнасці асабістага жыцця, за якія класікі забілі б яго на дуэлі ці без яе. Жанр, прызначаны выключна для дужа аўтарытэтнага чалавека, стаў здабыткам шырокіх пісьменніцкіх масаў. Адвалы слоўнае руды прапануюць як найчысцейшыя зліткі каштоўнага металу.

Сапраўднае ж крытыкі страшэнны дэфіцыт. Такое ўражанне, што ў большасці аўтараў своечасова нешта ампутавалі, і яны няздольныя да крытычнага „думання“. Для іх існуюць толькі два спосаба ацэнкі: для сваіх - стос кампліментаў, для чужых - агульнае адмаўленне. „Шэдэўраў я не пабачыў“, - заўважыў калісці вядомы бард-журналіст. А ці парупіўся ён пераканаць нас, што мае да гэтага здольнасці? Калі меркаваць па ягоных творах - хутчэй наадварот.

Сваім правяць такія кампліменты, што дзівішся. Карціць прывесці прыклады, але лепей стрымацца: надта вялікая разбежнасць паміж ацэнкай і фактам. Оргія ўзаемнага задавальнення не ўлічвае наяўнасць трэцяга боку - чытача, спажыўца. Часам пры чытанні ці слуханні чарговага опусу з'яўляецца адчуванне, што над табою здзекуюцца, робяць з цябе дурня. І гэта невыпадковае адчуванне. Бо грамадства, хочацца каму ці не, мае выпрацаваныя жыццём каштоўнасці. Калі ж хто насміхаецца ці здзекуецца з іх, то трэ' сур'ёзна папрацаваць, каб пераканаць звычайнага чалавека, што ўсё робіцца яму на карысць.

Сапраўдная бяда з паняткам „аналітыка“. Модна, ды цяжка. А для каго й немагчыма. Таму падаюцца за аналітычныя матар'ялы, што закранаюць тэму, якую пажадана было б аналізаваць. Журналіст хоча звацца аналітыкам, рэдактар - друкаваць такія матар'ялы. Таму столькі аналізаў тыпу „двойчы два - чатыры“, а звання аналітыка ня маюць хіба толькі лянівыя ды сапраўдныя аналітыкі, якіх трэ' цяпер зваць неяк іначай.

Адмова ад прызнання іерархіі каштоўнасцяў ня можа ісці поруч з росквітам аналітыкі. Складаныя рэчы маюць больш за адзін узровень, ім уласцівая разбудаваная структура. Адмаўляючыся ад абстрактнае матэрыі мы неўпрыкмет губляем здольнасць разумець канкрэтныя будзённыя рэчы. Спелай культуры, дасведчанаму грамадству гэта не страшна: ранейшыя пакаленні, прайшоўшы „шляхам Гердэра-Багушэві-





ча“, пабудавалі адпаведную структуру, каркас, касцяк. Цяпер постмадэрністы займаюцца „дробязямі“, якія ім засталіся. Для нашай сітуацыі - небяспечна. Для саміх аналітыкаў - згубна.

Вышэй згадвалася пра крытыку, знявагі і кампліменты. Усё гэта дадаткова псуе апломб, з якім апанаваўшая адпаведную трыбуну персона выкладае свае меркаванні. Катэгарычнасць выказванняў пры слабасці або адсутнасці аргументаў. Часцяком зусім не бярэцца пад увагу магчымасць адрознае (не кажучы пра супрацьлеглую) думкі.

Пры чым тут увогуле постмадэрнізм, скажа нехта. Хіба гэтак нельга паводзіцца пры сацрэалізме, класіцызме ці рамантызме? Хіба гэта нельга назваць уласным імем - бойкай правінцыйных снобаў за манаполію? Натуральна, што можна. „Постмадэрнізм“ - маскіровачная сетка. Штука ў тым, як выдатна ён надаецца для гэтае ролі. Мястэчковасці ён стварае філасофскі базіс, маразму дапамагае выглядаць творчым пошукам, непавагу да чытача выстаўляе клопатам пра ягонае культурнае развіццё.

У сённяшніх умовах даволі лёгка кінуць з высока ўзнятаю галавою непадмацаваную думку (прыгожа гэта робіцца ў „Вострай браме“ - пад гукі велічнае „мэлёдыі“, якую я заву „гара нараджае мыш“). Нескладана арганізаваць, каб не было як публічна аспрэчыць гэтую думку (чытайце ў „НН“ адказы на лісты на апошняй старонцы: „наша меркаванне не супадае з вашым“. Усё. Кропка.) Цяжэй растлумачыць, чым гэта розніцца ад практыкі вядомых, зусім не прагрэсіўных, колаў. Постмадэрнізм служыць рэцэптамі ў такой патрэбе. „Does the firm persuasion that a thing is so, make it so?“ - „All Poets believe that it does.“ Мы, паэты, у гэта верым - але іншых мусім пераканаць. А мы, постмадэрністы, маем права верыць у гэта. Ніякія тлумачэнні не патрэбныя. Выдатная пазіцыя, ці не так?

Трэ' спыніцца хавацца за постмадэрнізм і звярнуцца да вырашэння даўно наспелых праблем. Неабходна пагадзіцца з тым, што на highway постмадэнізму нельга трапіць, абмінуўшы тракт Багушэвіча. Не трэба нічога адрынаць. Калі новы арсенал дапаможа - выдатна. Калі не - абмяжуемся старым. Але праблемы мусяць быць вырашаныя. Бо, як казаў апостал, „калі Хрыстос не ўваскрос, то й вера нашая дарэмная“.

Беларускія пісьменнікі мусяць звярнуцца да патрэбаў грамадства. Распаўсюджаная дзіўная думка, быццам яны абслугоўваюць вёску. (Глядзі хаця б А.Дынько Resistant culture. Arche/Скарына 1'2001 ст.73) Ці ж вясковыя дзеці ня хочуць чытаць прыгодніцкія кнігі? Ці грэбуюць вясковыя падлеткі фантастыкаю? Ці дарослыя пагарджаюць дэтэктывам, любоўным раманам? Чаму ж тады беларускія пісьменнікі, якія іх нібыта абслугоўваюць ужо не адно пакаленне, не зрабілі амаль нічога ў гэтых жанрах? Чаму сёння не робяць? Заклікі ствараць творы для масавага чытача - неад'емны атрыбут кожнай дыскусіі пра беларускую мову, дзе бярэ ўдзел хаця б адзін „чалавек з вуліцы“, спажывец культурнага прадукту. А што ж пісьменніцкая грамада? Маўчыць.

Пошукі на шляхах светапоглядных выкрутасаў, маргінальных тэхналогій, не вырашаць асноўных праблем нашае культуры. Найперш трэба развязаць тое, што з розных прычынаў заляжалася з мінулых дзесяцігоддзяў - адбудаваць належную структуру культуры. Няма чаго саромецца: гэта нармальная справа. Фінскі гістарычны раман з'явіўся на сусветнай арэне толькі ў XX стагоддзі. Нават у расейскай літаратуры менавіта XX стагоддзе вызначылася ў гэтым жанры. Што ж дрэннага, калі XXI стагоддзе ўпрыгожыцца росквітам беларускага гістарычнага рамана? Гэты жанр патрэбны ня толькі кожнаму народу, але й кожнаму часу.

У нас сёння жанры, якія патрабуюць шырокіх ведаў, напружанай працы занядбаныя. Усё больш вершы, або апавяданні, дзе белетрызуецца аўтарскі сціплы жыццёвы досьвед - у лепшых традыцыях казармавых показак, якімі забаўляюцца навабранцы: хто, дзе, з кім, колькі разоў або колькі літраў. Нават апавяданні лічацца занадта цяжкімі. У модзе гэтак званыя эсэ - абы пра што (дакладней - пра сябе, каханага) памерам у адну-дзве старонкі. Каму, дарэчы, адрасаваныя сюжэты пра мінеты У.Арлова - вяскоўцам ці месцічам?

Можа падацца, што ўсё гэта тэндэнцыйна падабраныя факты. Прапаную пагартаць „Нашу ніву“, „Arche“, „Крыніцу“ і скласці ў думках абагулены вобраз аўтара/рэдактара гэтых выданняў. Пасля спытаць сябе: людзі, якія стаяць за назвамі „Наша ніва“, „Arche“, „Крыніца“ шматкроць заяўлялі, што бяруць на сябе місію ратавання беларускае культуры (і, de facto, народа), што яны ведаюць, як зрабіць тую культуру адпаведнай выклікам сучаснасці. Наколькі вобразы дэміургаў, паўсталыя са старонак, адпавядаюць уласным абяцанням? Ці кожнае іхняе слова трэ' успрымаць як сказанае ex catedra? Ці гатовыя Вы, канкрэтны чытач, узяць іх у якасці асабістага настаўніка жыцця? Ці хочаце Вы даверыць ім сваю будучыню, сваіх дзяцей, свой народ? Ці мо' варта, аддаўшы належныя знакі павагі, прыйсці ім на дапамогу парадаю?

Ня трэба рабіць скідку, што, маўляў, уплыў гэтых людзей не такі вялікі, каб нечага баяцца. Гэта сёння. Заўтра можа быць іначай. Пытанне ж ставілася, зыходзячы з амбіцый, а не з магчымасцяў. Апошнія могуць змяніцца, першыя - аніколі. А трэба ж мець мужнасць і быць самакрытычным. Як дзядзька Антось.

**Тлумачэнні:**
**малады рэдактар-інтэлектуал – А.Дынько; рэвалюцыйны шмат у якіх пытаннях паэта – С.Адамовіч; бізнесмэн-літаратар – А.Глёбус; бард-журналіст – З.Бартосік.**

## III. Грунт пад нагамі

*...Увесь народ наш і багабойныя суседзі, высакародныя і паспалітыя люд, абвязаўшыся вяроўкамі і працуючы як валы, цягнулі калоны ўгару, і на адхоне ў цэнтры места насустрач ім выйшлі рамеснікі, адклаўшы свой струмант дзеля змагання з цяжкасцямі шляху, хвалячы як маглі Госпада і святых пакутнікаў...*

(*Успаміны абата Сугерыя пра будаўніцтва царквы Сэн-Дэні*)

Хваравітае захапленне постмадэрнізмам - візітная картка рэфарматараў беларускай культуры (найперш прыгожага пісьменства). Варта толькі

прыгледзецца, каб пазнаць Сіндром Непераможнага Ворага: імкненне ўхіліцца ад непрыемных чыннікаў змушае творцаў дэфармаваць ідэі так, што губляецца грамадскі рэзананс, а значыць, змяншаецца небяспека. Гэтая тактыка ў апошнія гады пазбавілася рэшткаў апраўдання.

Дачыненні ўлады і культуры змяніліся сутнасна. Раней улада трымала ўсіх у рызах, але з меркаванняў прэстыжу лічыла неабходным карміць. Цяпер яна дазваляе больш свабоды, але адмаўляецца фінансаваць жыццядзейнасць свабодных творцаў. Асцярожная форма губляе сэнс, калі гаварыць пра стаўленне дзяржавы, і ўплывае згубна, калі гаварыць пра спажыўца - адзіны грунт творцы дзеля апраўдання існавання і дзейнасці.

Спажывец хоча, як хацеў раней, каб мастацтва задавальняла ЯГОНЫЯ патрэбы, адказвала на балючыя пытанні, закранала душу. Раней ён лічыў, што творца раздзіраецца паміж ягонымі жаданнямі і патрабаваннямі ўлады, і таму з удзячнасцю лавіў нат' асобнае смелае слоўца. Сёння, адчыняючы незалежнае выданне, ён хоча, каб яно арыентавалася на яго і толькі на яго. Яму незразумела, ад каго хавае аўтар свае сапраўдныя думкі.

Стэрэатып абавязковасці дзяржаўнае падтрымкі недаравальны рэфарматарам. Дэклараваўшы адмову ад спадзяванняў на дзяржаўную кішэню, яны не вызваліліся ад накінутай гэтымі спадзяваннямі схемы, і надалей імкнуцца калі не падабацца, то прынамсі не дражніць дзяржаўнага Левіяфана. У выніку беларуская літаратура ня збірае крытычна неабходнай меншасці, каб апраўдаць сваё існаванне.

Беларускай культуры трэ' засяродзіцца на пошуку апірышча. Якая сацыяльная група будзе падтрымліваць новую беларускую культуру? Трэба тэрмінова адказваць - словам і справай. Улада ўтрымлівала культуру з меркаванняў прэстыжу і з неабходнасці заўважаць патрэбы часткі насельніцтва. Рэпрэсіі, абмежаванні, іншыя захады зменшылі гэтую групу. Улада вырашыла не заўважаць ейнае існаванне. Справа дыскусійная, памылілася яна ці не, але фінансаванне спынілася. Трэба шукаць спонсара. Добра відаць, што сёння толькі самі аматары могуць быць спонсарамі беларускае культуры і адпаведна ейнымі гаспадарамі. Унікальная сітуацыя выклікае крызіс.

Праблема грунту пад нагамі істотная для ўсяго беларускага руху. Мне ўяўляецца фігура „Беларуса", які абапіраецца на дзве аддаленыя адна ад адной кропкі: традыцыяналісцкую (з мянушкаю „вёска") і авангардысцкую (з мянушкаю „моладзь"). Паміж імі большасць насельніцтва з мянушкаю „балота". Без апоры на народныя гушчы рух немагчымы, але стоячы трываць можна. Бяда толькі, „вясковая" купіна паступова раствараецца ў навакольным „балоце", і хутка „Беларус" будзе стаяць на аднойназе, як бусел. Авангардысты - асяроддзе капрызнае, утрымацца на іхняй купіне будзе складана.

Агромністы масіў людзей, вялізарны абсяг патрэбаў існуюць паза ўвагаю беларускага руху. Справа ня ў тым, што гэтыя патрэбы беларуская грамадская актыўнасць ня можа задаволіць. Непрыемна, але даравальна. Рэч у тым, што яны не бяруцца пад увагу беларускімі дзеячамі. Адпаведна беларускіх дзеячоў таксама не бяруць пад увагу. Хто больш церпіць? Хто больш рызыкуе?

Прыклад з галіны, што ў апошняе дзесяцігоддзе развівалася ці не найбольш дынамічна: гістарычныя веды. Зроблены велізарны крок ад забыцця і замоўчвання пэўных тэм і постацяў нашае мінуўшчыны да іхняе прэзентацыі шырокім колам. Відавочныя змены да лепшага. Але ж... Названыя ніжэй часавыя межы безумоўна будуць рознымі ў розных людзей, але з'ява закранула амаль усіх, хто меў адпаведныя зацікаўленні.

Спачатку, недзе да 1992 году, усё, што тычылася беларускае гісторыі, чыталася нагбом. Кожны артыкул быў адкрыццём, факт - падзеяй. Мінуўшчына набірала больш акрэсленыя рысы, засялялася выдатнымі асобамі. Пачалі з'яўляцца новыя пытанні: ужо не „Хто?" і „Што?", але „Як?" і „Чаму?". На гэтыя пытанні здавальняючых адказаў за ўсе гады з'явілася вельмі мала.

У беларускай культурнай дзейнасці па зразумелых прычынах непрапарцыйна шмат месца мае першасная індактрынацыя і асветніцтва. Гэта ледзьве не ўсё, на што свядомыя беларусы былі здатныя ва ўмовах уціску. Зразумела і даравальна. Іншая справа, у свядомасці беларускай грамады амаль не прысутнічае разуменне, што такая структура заганная, што яна ставіць пад пытанне наша права звацца нармальнай нацыяй.

Факталагічна-асветніцкая дзейнасць постсавецкага часу больш як пяць гадоў таму стварыла базу для наступнага ўзроўню асэнсавання мінулага, сукупнасцю выяўленых фактаў паставіўшы пад пытанне міф пра нашу слаўную гісторыю. (Незашмат там славы. Відавочна незашмат, калі нацыянальная свядомасць на нізкім узроўні, а дзяржава падпала пад ціхую каланізацыю.) Грамадскасці было прадстаўлена досыць фактаў, каб яна ўцямна паставіла важкія пытанні, з мэтаю выцягнуць з гістарычнага досведу карысныя высновы. Гісторыя існуе не толькі для таго, каб ёю ганарыцца. Але такая неабходная для беларусаў аналітычная і сінтэтычная праца - дзе яна?

Мова не пра таўшчэзныя манаграфіі (таксама патрэбныя), а пра спосаб разглядаць падзеі. Не толькі асвета і абуджэнне нацыянальнае свядомасці, але й асэнсаванне і самадасканаленне нацыі на гістарычным матэрыяле. Гэтую працу могуць распачаць асобныя гісторыкі і публіцысты, больш за гэта - менавіта такая дзейнасць мусіць, выконваючы сваю грамадскую функцыю, уплываць на дзейнасць навуковых інстытуцый.

У аўдыторыі з'явіліся новыя патрэбы, яна апярэдзіла творцаў, а тыя ня могуць задаволіць ейныя жаданні. Нельга сказаць, што ніхто з культурнікаў не цікавіцца сацыяльнай базай, ці больш сціпла - сваёй аўдыторыяй. Бадай ніколі праблему не паварочвалі гэткім бокам: што пісаць, каб аўдыторыя адпавядала нашаму статусу народнага голасу? (Ад статусу ніхто не адмаўляецца.) Як працаваць, каб аўдыторыя рабілася большаю? Існаванне праблемы адасобленасці творцаў ад (патэнцыйнае) аўдыторыі прызнаецца амаль усімі, але высновы робяцца розныя.

Творцы нашыя схільныя да нарцысізму. Яны так шмат увагі аддаюць сабе і сваім калегам, што часам забываюцца на навакольны свет. А потым, схамянуўшыся, крычаць „Без нас!(краіна жыве - Д.Ж.)" і сыплюць недарэчныя папрокі сабе ды іншым: „Калі фармаваліся ідэі Адраджэння (Ідэальнай Беларусі), хіба можна было ўявіць сабе такую канцэпцыю Беларускай Дзяржавы, якая б адначасна спалучала ў сабе плён савецкай, супольнай беларуска-расейскай і нацыянальна-гістарычнай спадчыны. Хіба што як здзек тады магла быць успрынятая прапанова задзіночыць у межах аднаго дыскурсу ВКЛ і БССР, Слуцкае паўстанне і савецкую партызанку, Астрожскага і Жукава, Рэч Паспалітую і СССР, Скарыну і трактар „Беларусь", Грунвальд і вясну 45-га, Дамейку і Чэрскага..." *

Хіба можа быць плённым для грамадства дыскурс, які не спалучае гэтыя нібытныя антыноміі? Хіба наша нацыянальна-гістарычная спадчына не ўтрымлівае ў сабе XIX і XX стагоддзяў? У савецкія часы выключалі адну палову спісу, у парыве вызваленчых эмоцыяў - другую. Гэта нармальна - для групы пад уплывам эмоцый. Для эліты нацыі - не. Калі жарсці прыціхлі, трэ' было працаваць над сінтэзам у галовах таго, што гісторыя незваротна спалучыла ў жыцці. Не зрабілі. Не адчулі неабходнасці. Не пачулі заклікаў перакінуць масток паміж незалежнасцю і кілбасою (а колькі было тых заклікаў!), мовай і дабрабытам, Скарынам і масавай культураю. Грунвальд і вясну 45-га не раз згадвалі разам як прыклады змагання з немцамі. Але мусіць спраўцы гэтага „блюзнерства" не ўваходзяць у „Мы" Валянціна Акудовіча.

Не завязаўся шырокі дыялог, і кандыдаты ў ідэолагі засталіся кожны на сваёй купіне са сваім экстрэмізмам. Словы вядомага філосафа патыхаюць ім: немагчыма і ўсё. А для мяне пры ўсіх адрозненнях няма бездані паміж Дамейкам і Чэрскім. Экстрэмізм народжаны безадказнасцю, а тая - несвабодай, забаронаю браць адказнасць за лёс нацыі. Бура адмаўлення натуральная для часу разбурэння ідалаў, пачатку „перабудовы". Але ж той час даўно прайшоў. Не заўважылі.

Сёння сп. Дынько заклікае да стварэння мастацтва супраціву**. Добры заклік. Голы пратэст малапрыдатны. Нельга апеляваць толькі да разбуральных памкненняў. Гэта не грунт пад нагамі. Мастацтва мусіць арыентавацца на стварэнне ў грамадстве новае якасці шляхам задавальнення патрэбаў: старых і тых, што паўсталі ў новай сітуацыі:

„Перад сучаснай беларускай культурай стаіць шэраг задач. Задача „раздзяржаўліваньня" культуры, падтрымкі незалежнай ініцыятывы. Таксама - праца па запаўненьні лякунаў, што ўтварыліся ў выніку саветызацыі: толькі карпатлівай будзённай працай, ад перакладу усясветнае клясыкі на беларускую мову да распрацоўкі новых навучальных курсаў, можна дабіцца культурнай паўнакроўнасьці. Важна таксама пераадолець палітычны нігілізм, тую алергію мастацтва на палітыку, што выпрацоўвалася як рэакцыя на савецкі ідэалягічны прымус. Нагвалт патрэбная ангажаванасьць дзеячаў культуры ў грамадзкія справы. На парадку дня стаіць стварэньне мас-культуры. Ад яе будзе залежаць ня толькі самааздараўленьне культурных мэханізмаў як такіх, унезалежненьне іх ад дзяржаўнага кантролю, але і, напэўна, умацаваньне беларускай дзяржаўнасьці."

Я маю намер дадаць да гэтага спісу некалькі пажаданняў творцам. Перш за ўсё, сціпласці. Разумення таго, што аўдыторыя не саступае ім у адукацыі і мастацкім гусце. Большай увагі да спажыўца (як казаў Л.Баршчэўскі, пісаць трэба не для народа, а для чытача). Аўдыторыя ў нас не распешчаная. Гэта даводзіць фенаменальная папулярнасць твораў У.Караткевіча. Нягледзячы на фантастычнасць і відавочную савецкасць (!) некаторых ягоных гістарычных канцэпцый, Караткевіч ёсць культавай фігурай для свядомых беларусаў, а пэўныя падкрэслена несавецкія аўтары выклікаюць хутчэй неразуменне, а то й агіду.

Я заклікаю творцаў мацаваць і дасканаліць сваю нацыянальную свядомасць. Усе згодныя, што ў беларусаў яна слабая, але творцы-нацыяналісты лічацца выключэннем. Памылка. Калі параўнаць моц карпаратыўнай салідарнасці і брацкіх пачуццяў да сваіх супляменнікаў, то першае ў 999 выпадках з 1000 будзе мацнейшым. Гэта норма для беларусаў (тыя, хто служыў у савецкім войску лёгка прыгадаюць, што толькі дзве нацыі не гуртаваліся па нацыянальнай прыкмеце: рускія, бо іх зашмат, і беларусы). Гэтую норму трэба змяніць.

У кантэксце сённяшняе гутаркі мацнейшая нацыянальная свядомасць мусіць штурхаць творцаў больш цвяроза ацэньваць дзейнасць сваіх калегаў пынамсі публічна, у друку, і прыслухоўвацца да спажыўцоў, нават калі яны гавораць непрыемнае. Шырэй жа, нельга забывацца, што беларусам можна быць на розны лад. У нацыі можа (і мусіць) быць эліта, але эліта ня можа быць асобнай нацыяй. Калі нехта, грунтуючыся выключна на нацыянальным атаясамленні, аб'яўляе сабе падобных арыстакратамі духу, гэта бліжэй да снабізму чым да нацыяналізму. Лепей тады гаварыць пра групоўку і назваць газету адпаведна:"першая беларуская газета для тых, каму падабаецца быць беларусам". Але гэтых людзей меней, чым беларусаў, працаваць выключна для іх - нерацыянальна.

Мы, беларусы, маем агульныя праблемы. Іх нельга вырашыць для нейкае групы, ня вырашыўшы для ўсяе нацыі. Ёсць падставы меркаваць, што нацыі гэта па сілах. Як жа арганізавацца, каб магчымае ажыццявілася?

**Тлумачэнні:**

***) Валянцін Акудовіч „Бяз нас. Да дзесятай гадавіны "НН". „Наша Ніва" [23] 4 чэрвеня 2001**

****) А.Дынько Resistant culture. Arche/Скарына 1'2001**

## IV. Рэха

*„Думаеце гэта здань? Можа і так", - сказаў Сільвер, - „але я не разумею аднаго. Мы ўсе чулі рэха. А хіба ж бачыў хто-небудзь, каб у зданяў быў цень. Дык адкуль тады ўзяцца рэху, калі не можа быць ценю? Не, хлопцы, так не бывае..."*

*Р.Л.Стывенсан „Выспа скарбаў"*

Каб дасягнуць вышэйпамянёнай „культурнай паўнакроўнасці" шмат трэба зрабіць, але ў прынцыпе зздольшага вядома што. Пытанне, як гэта рабіць і чаму гэта ня робіцца! І вось тут мне прыгадваецца славуты аргумент Джона Сільвера. Чаго бракуе Бела-

рушчыне каб заваёўваць прыхільнікаў? Што замінае радаваць заўзятараў, якія жыць без яе не могуць, але часцяком з прыкрасцю адкладаюць газету ці кніжку замест таго каб параіць яе сябрам і знаёмым?

Менавіта Рэха і ёсць тая нястача. Рэха - водгук, які мусіць мець падзея, каб стацца падзеяй, слова, каб адчуць, што трапіла паводле прызначэння. Як караля стварае атачэнне, так культурным і іншым справам дае жыццё грамадскае рэха. (Для беларусаў гэта заўжды было праблемай. „Людзьмі звацца!“, „ - А хто там ідзе?“, „Я ж ціха йграю, хто ж ціхіх прымеце“, - ці гэта не прага водгукаў, ці не пошук рэакцыі атачэння?) Рэха няма, калі вакол крыніцы гуку няма аб'ектаў. Дзіўна ці не, але Ю. Станкевіч у „Крыніцы“ прапанаваў менавіта такі выраз: Вялікая Інтэлектуальная Пустэча. Тут і разрэджанасць думкі, і адсутнасць водгуку, і раз'яднанасць і самота творцаў. Наймацней гэта б'е па тых, чые словы гінуць бяз знаку ў наваколлі, і выклікае шэраг хваравітых рэакцый.

Лягчэй за ўсё заўважыць празмерную вастрыню некаторых выказванняў, непатрэбную правакацыйнасць. Чалавек не хоча заставацца бяз рэха, і пачынае завастраць фармулёўку, крычаць, выраўляць розныя штукі каб прыцягнуць увагу. Калісьці С.Дубавец прыдумаў гісторыю пра аднакласніцу, што нібы паехала ў Чачню снайперкай. Што ж, прынамсі КДБ зацікавілася (калі зноў жа, паверыць С.Дубаўцу). Або апавяданне С.Балаханава „Смерць лютністы“ ў „Arche“, дзе ў якасці галоўнага героя, прычым станоўчага, выступае жаўнер СС. Нават страшнавата разважаць наконт гэтага твора: ці то ў нас болей прыхільнікаў Гітлера, чым здаецца, ці гэта няўдалая пародыя на неіснуючыя для грамадскай свядомасці творы эміграцкіх аўтараў (на карысць гэтага гавораць некаторыя лексічныя выбрыкі). Хацелася б верыць у апошнюю версію, але ж сорамна здзекавацца з пісьменнікаў-самавукаў, якія пісалі далёка ад Радзімы і не прэтэндуюць на высокія месцы ў літаратурнай іерархіі. Гэта не толькі праявы безадказнасці, пра што гаварылася раней. Я схільны бачыць у такіх публікацыях акт адчаю спакутаваных без Рэха людзей.

Яшчэ адным тыпам рэакцыі стала стварэнне штучнага рэха, або тэхнічнай мовай - рэверберацыі. „Наша Ніва“ ў Інтэрнэце, „Неабжытая спадчына“ і „Вострая брама“ на Радыё „Свабода“ - усё гэта, акрамя рэкламы, яшчэ і пошук псіхалагічнага камфорту, запаўненне пустэчы. Дарэчы, прыгадайце колішнюю абвестку з „Нашай Нівы“ пра перадачу „Вострая брама“ (дзе наўпрост на 90% чытаючца артыкулы з „Нашай Нівы“) і Вы ўбачыце сапраўдны хваласпеў Рэху - пад назвай Культурнага Кантэксту. Але ня ў тым рэч: увачавідкі відаць, што натуральнага водгуку чамусьці бракуе.

Наўпроставым наступствам нястачы Рэха з'яўляецца, між іншым, страта творцамі пачуцця маштабу. Сталыя пункты параўнання (рэперы) стварае толькі жывая рэагавальная аўдыторыя. Інакш ня могуць існаваць крытэрыі грамадскай вартасці і мастацкай якасці! Акцэнты змяняюцца пад уплывам чыннікаў, што дзейнічаюць у межах вузкага кола і, непазбежная ў прынцыпе, неадпаведнасць паміж ім і аўдыторыяй павялічваецца да непрыймальных памераў. Дыспрапорцыі робяць творчую прадукцыю нецікавай. У нармальнай сітуацыі выпачэнні былі б пастаўлены на вартае іх месца, але тут яны без перашкод набываюць статус творчых ды грамадскіх з'яў – і ПАСПЯХОВА АДСТРАШВАЮЦЬ ЛЮДЗЕЙ АД БЕЛАРУСКАГА СЛОВА.

Я не супраць індывідуалізму творцы. Але ў умовах гранічна паслабленай зваротнай сувязі індывідуалізм развіваецца ў адсутнасці здаровых канкурэнцыі і ціску. Празмерна экспануюцца бакі асобы, што ў нармальнай сітуацыі былі б прыцененыя да здаровага ўзроўню. У нас, грамадства нават крыху больш кансерватыўнае, чым сярэдняя норма, але „свабодзе нораваў“ сярод творцаў пазайздросціць найліберальнейшыя супольнасці. Гэта часцяком больш нагадвае эксгібіцыянізм, а не мастацтва. Пачытайце вядомых сёння аўтараў, якіх часам падаюць за „твар“ нашага пісьменства - знойдзеце не адзін прыклад, як здэзарыентаваныя здольнасці даюць неадэкватны магчымасцям вынік.) І заканамерная сцяна неразумення, што існуе паміж „ахопленымі Беларушчынай" і „несазнацельным населеніем“. Каб пачаць чытаць па-беларуску патрэбны стымул. Пакуль чалавек не зацікавіўся, ён не ведае, а таму і не ўлічвае і не паважае беларускія справы. Няма розгаласу - няма цікавасці - няма суперажывання. Іншымі словамі - усяго таго, за што нібыта змагаецца беларуская грамада.

Недзе пад новы 1998 ці 1999 год „Наша Ніва“ урачыста абвесціла супрэмацыю „беларускага культурнага прадукту“: нібыта сёння культурны (ці прагны культуры) чалавек пачынае адчуваць перавагу беларускага. Мне здавалася тады і здаецца сёння, што беларускі прадукт канкурэнтаздольны толькі „сярод сваіх“, а такія заявы нясуць у сабе ўсе рысы страты маштабу. Я не бачу такой спакусы, якая б прымусіла рускамоўных жыхароў Беларусі тлумна ісці да Беларушчыны каб, так бы мовячы, не адстаць ад жыцця. Было ў свой час з творамі Караткевіча, здараецца - з творамі Быкава, але гэтага мала, каб прыцягнуць увагу патрэбнай колькасці людзей да культуры, пазбаўленай Рэха.

Якія пагрозы нясе існуючы стан спраў? Прапаную звярнуцца да суседзяў. Польскі даследчык Павел Ясеніца піша на цікавую для нас тэму ў эсэ „Польская анархія“, аналізуючы прычыны згубы Рэчы Паспалітай у XVIII ст. Піша з забойчай дакладнасцю:

„... Так званы жыццёвы і палітычны рэалізм часам нагадвае слепату. Хворыя на яго людзі не заўважаюць відавочнага, таго менавіта, што гуманістыка ёсць магутнаю сілай:, здольнай займаць пазіцыі, абсалютна недасяжныя для палітыкаў, генералаў і тэхнакратаў. Таго, хто стварае і раздае культурныя каштоўнасці, паўсюдна цэняць. Такому народу лягчэй прабачаюць, дапамагаюць, цяжэй пагаджаюцца з ягонай крыўдай... Свет прызвычаіўся лічыць, што ў краі надвіслянскім ды наднёманскім нічога вартага не паўстае. Калі ж можна без Польшчы абысціся ўкультуры, дык гэтак жа лёгка можна і на палітычнай карце."

Усё гэта вядзе нас да простай думкі: знешнія праявы гавораць пра нас тое, што развіццё Беларушчыны ідзе дрэнна і ў дрэнным кірунку, а гістарычны досвед тлумачыць, што вынікам такога стану будуць вялікія непрыемнасці.

Чаму ж усё так адбываецца? Зноў суседзі прыходзяць на дапамогу: „Аб'ектыўная, а можа і адзіная мера перспектыўнасці - вольны рынак сусветнай грамадскай думкі. Аблічча, якое мы дэманструем свету, пераважна правінцыйнае. Тое, што нам гэта накінулі, не падлягае сумненню, але не адмяняе факту... На вольным рынку толькі нехта сапраўды знойдзе прызнанне, і ўсё спробы падмяніць сусветныя стандарты чымсьці іншым - ці то асветаю, ці хатняю другаснасцю - сказаныя на няўдачу..." (Рыгор Грабовіч, дырэктар Украінскага Інстытута пры Гарвардскім універсітэце, ЗША.)

Вызначаная панам Грабовічам задача пераарыентацыі эліты нацыі з парадыгмы выжывання да парадыгмы развіцця на Беларусі не выконваецца. З гэтай прычыны культура наша сёння ў стагнацыі, і менавіта культура, падмаваная ў шырокім сэнсе, і цягне сёння на дно беларускую справу. Такія ў яе вага і кошт.

Тыповая задача менеджменту. Фірма мае вытворчы патэнцыял і перспектыўны рынак, але тавар не прадаецца. Аналіз, выкананы намі, паказаў, што ў фірме няма сувязі паміж аддзеламі, і не ўлічваюцца пажаданні і думкі спажыўцоў. Маркетынгавая стратэгія цалкам заснавана на ўяўленнях асобных супрацоўнікаў без практычных даследаванняў. Выснова: неабходная змена стратэгіі. Патрэбныя грунтоўнае вывучэнне патрэб рынку і каардынацыя падраздзяленняў.

Прачытаўшы ўсё вышэйсказанае, шмат хто, пэўна, скажа абурана: „Ды мы ж пра гэта колькі думалі, начэй ня спалі, сэрца сабе рвалі! А нас тут папракаюць." Не пра гэта гаворка. Патрэбнае Рэха. Патрэбная публічная дыскусія з актыўнымі ўдзельнікамі і на вачах шырокай зацікаўленай аўдыторыі. Але каб вынік атрымаўся добрым, трэ' выконваць правілы гульні.

Ёсць некалькі патрабаванняў імператыўнага характару. Напрыклад, дыскусія мусіць ісці публічна і наконт вядомых грамадскасці фактаў, усе бакі павінны разглядацца як роўныя і г.д. Імітацыя, накшталт вядомых адказаў на лісты ў „НН“, дзе чытач бачыць толькі катэгарычны водгук і па ім мушаны меркаваць пра твор, якога ніколі не пабачыць, непатрэбная і шкодная і ніяк не можа лічыцца за паўнацэннае абмеркаванне.

Патрэбна таксама пэўная абазнасць з думкамі калегаў і гістарычнае вымярэнне. Гэта будзе заахвочваць да глыбейшага абмеркавання, да працягу дыялогу. Не варта рабіць выгляд, што аўтар першым у свеце ўзняў нейкую праблему і адразу ж вычарпаў яе дарэшты. Я б рызыкнуў даць такую параду рэдактарам: кожны аналітычны артыкул мусіць утрымліваць некалькі цытатаў іншых аўтараў - проста для стварэння рэха. Выдатна было б, калі б калегі нагадвалі аўтарам іхнія ранейшыя заявы і сцверджанні. Гэта зрабіла б рэвалюцыю ў нашай палітычнай думцы, дзе прароцтвы толькі зрэдку бываюць правільнымі, але амаль заўсёды фармулююцца надзвычай катэгарычна.

Асаблівасцю метаду дыскусіі ці дыялогу з'яўляецца дадатковыя магчымасці: паводле сваёй прыроды, дыскусія асвятляе значна больш за непасрэдны прадмет. Абмяркоўваючы, напрыклад, асабістае жыццё беларускага магната, можна без праблем асвятліць розныя пытанні гісторыі Рэчы Паспалітае. Абы хапіла кваліфікацыі. Можна ў гутарцы пра беларускі жывапіс закрануць і разрабаванне расейцамі беларускіх збораў, і асаблівасці нашага мастацкага музея, і адсутнасць галерэяў у абласных цэнтрах, і Бог ведае што яшчэ. Абы хапіла імпэту.

Людзі, якія выказваюцца публічна, сваім прыкладам вучаць іншых цікавіцца беларускімі справамі. Дзеля гэтага ім самым трэба вызначыцца: ці ёсць у іх саміх такая цікаўнасць. Стаўленне да ўзнятае праблемы адчуваецца адразу. Дрымотныя перыяды вядомага палітолага на радыё „Свабода“ не могуць выклікаць у слухача ўздым нацыянальнага пачуцця з прычыны свайго гучання. Не пераконваюць словы абурэння ці захаплення ў такіх пасажах. Не выклікаюць мабілізацыі. Яны не разлічаны на водгук. Яны не могуць існаваць у актыўным асяроддзі. Таму іхняя распаўсюджанасць можа служыць мераю інтэнсіўнасці грамадскага дыялогу.

У ідэале кожны арыгінальны беларускі твор мусіць мець некалькі публічных водгукаў. Безумоўна, пакуль што ўсё гэта чыстая мара. Але рацыянальная мара. Гэта не панацэя. Наяўнасць Рэха, або без метафар – дыскусіі з'яўляецца неабходнай умовай нармальнага развіцця грамадства.

Існуе безліч іншых рэчаў, якія таксама патрэбныя, але ўсе яны працуюць слаба, калі няма жывой размовы пра іх сярод людзей. Альтэрнатыва вядомая: калі ў твораў не з'яўляюцца цені-водгукі, то яны з жывых ператвараюцца ў здані. Толькі дыскусія можа абудзіць беларускую грамадскасць, дапамагчы вызначыцца з аўтарытэтамі, мэтамі, сродкамі, адным словам - стварыць для беларусаў рэальны шанс на мадэрнізацыю і адраджэнне.

**Тлумачэнні**

**сучасныя аўтары:**
**У.Арлоў, С.Адамовіч, А.Глёбус**
**вядомы палітолаг:**
**В.Карбалевіч**

### Ствараецца сетка жаночых арганізацыяў

**Пытаньні разьвіцьця сеткі жаночых арганізацыяў і ініцыятываў абмяркоўваліся ў Гародні ў час сустрэч актывістак мясцовага жаночага руху з прадстаўніцамі амэрыканскай арганізацыі „Heartland International“.**

Год таму з ініцыятывы гэтае арганізацыі распачаўся праект „Woman Leadership in Belarus“ („Жаночае лідарства ў Беларусі“). За гэты час ў некалькіх беларускіх гарадох былі створаныя г.зв. „ключавыя групы“, якія займаліся выпрацоўкай канцэпцыі стварэньня сеткі жаночых арганізацыяў. У траўні-чэрвені гэтага году 10 актывістак беларускіх НГА ўзялі ўдзел у стажыроўцы ў Чыкага (ЗША), дзе абмяркоўвалася стратэгія разьвіцьця сеткі ў бліжэйшыя часы. Дыскусія на гэтую тэму працягвалася й тады, калі з візытам у Беларусі знаходзілася група жанчын з „Heartland International“.

У Гародні госьці знаходзіліся з 20 да 24 кастрычніка. За гэты час адбылася сустрэча з гарадзенскай „ключавой групай“, трэнінг „Жаночае лідарства“, візыты ў мясцовыя грамадзкія арганізацыі, шэраг нефармальных сустрэч. Пасьля Гародні амэрыканкі наведалі таксама Берасьце й Віцебск.

# „STOP — ГЭС!"

Экалёгія

**Такую назву меў праект, ініцыятаркай і кіраўніцай якога была гарадзенская журналістка Ніна Палуцкая. Зь яе ініцыятывы ўпершыню ў горадзе былі праведзеныя адкрытыя грамадзкія слуханьні, прысьвечаныя пытаньню будаўніцтва плаціны на Нёмане.**

Праектаваньне будаўніцтва Гарадзенскай ГЭС на Нёмане распачалося па замове канцэрну "Белэнэрга" і ВА "Гроднаэнэрга". У якасьці аргумантаў на карысьць праекту фігуруюць магчымасьць атрыманьня таннай экалягічна чыстай электраэнэргіі, стварэньне рэзэрвовай крыніцы электраэнэргіі для гарадзенцаў, зьяўленьне новай зоны адпачынку на берагах вадасховішча, якое ўзьнікне ля ГЭС, разьвіцьцё воднага турызму.

Эколягі, у сваю чаргу, сьведчаць, што будаўніцтва Гарадзенскай ГЭС прынясе шмат стратаў навакольнаму асяродзьдзю: могуць зьнікнуць некаторыя каштоўныя пароды рыб, будуць падтопленыя лясы ў месцы стварэньня вадасховішча, пачнецца дэфармацыя берагоў ракі, што выкліча правісаньне набярэжных вуліц, пашкоджаньні трубаправодаў, камунікацыяў. Акрамя таго, уздым узроўню вады ў раёне вадасховішча выкліча ўздым узроўню грунтовых водаў. А гэта азначае, што будуць затопленыя студні з чыстай вадой у навакольных вёсках.

Нягледзячы на тое, што слуханьні праігнаравалі ініцыятары будаўніцтва - энэргетыкі, мерапрыемства ўсё-ткі выклікала вялікі розгалас. На працягу траўня й чэрвеня публікацыі на гэтую тэму зьявіліся ў „Пагоні", „Биржи информации", „Вечернем Гродно", „Glos z-nad Niemna", „Белорусской деловой газете", „Нашай свабодзе", „Новом веке", маладзёвых выданьнях „Дзядзінец", „Разам". Не абмінулі сваёй увагай узьнятую праблему гарадзенскія тэлевізія і радыё, „Радыё Рацыя", Радыё „Свабода".

Да ўсяго гэтага можна дадаць выдадзеныя ў межах праекту спэцбюлетэнь „Нёман як крыніца электраэнэргіі" і матэрыялы слуханьняў.

Не застаўся па-за ўвагай гарадзенцаў і „плывучы пікет". Плот з надпісам „Захаваем Нёман для нашых дзяцей" праплыў па рацэ ў цэнтры гораду. Апошняй акцыяй у межах праекту стаў пэрфоманс у галерэі „У Майстра", дзе былі падведзеныя вынікі, а таксама прэзэнтаваныя кашулькі з надпісамі кшталту „Stop ГЭС".

Праект паказаў, што грамадзкія арганізацыі ў стане фармаваць грамадзкую думку адносна тых альбо іншых праблем. Застаецца спадзявацца, што гэтая грамадзкая думка ня будзе праігнараваная тымі, ад каго залежыць развязка гэтых праблем.


Ніна Палуцкая – кіраўніца праекту



## Прыбралі Швайцарскую Даліну і прылеглыя тэрыторыі Старога парку

**29 верасьня сябры гарадзенскай арганізацыі Маладога Фронту на працягу 2-х гадзін прыбіралі тэрыторыю гарадзкога парку імя Жылібэра, якая раней насіла назву Швайцарскай Даліны, і прылеглую да тэатра лялек пляцоўку.**

Каля 20 хлопцаў і дзяўчат павыносілі сьмецьце, падмялі асфальтавыя дарожкі й агледзелі берагі рачулкі Гараднічанкі, якая працякае праз парк Жылібэра.

Адміністрацыя парку дапамагла падлеткам: дала колькі венікаў, параіла, куды можна павыкідваць сьмецьце. Перад адыходам моладзь выклала на траве з каштанаў словы „Малады Фронт". Быў зроблены агульны здымак.

**Андрэй Мялешка**



# Паслухайце крык цішыні...

**Калі ты хочаш застацца сам насам, калі думкі блытаюцца й ты ня ведаеш, дзе выйсьце - ты ідзеш да дрэваў і травы, да неба і птушак. Ідзеш паслухаць цішыню і раптам разумееш, што цішыні няма, што вакол цябе мітусіцца велізарны сьвет, напоўнены мільёнамі гукаў.**

Прыслухайцеся: цішыня крычыць, просіць людзей аб дапамозе. Дарослыя развучыліся слухаць цішыню. Крык цішыні пачулі дзеці. Пачулі і стварылі спэктакаль, які так і назвалі "Паслухайце крык цішыні".

З красавіка па чэрвень у Лідзе прайшоў вялікі экалягічны праект, накіраваны на абарону навакольнага асяродзьдзя. Спэцыфіка праекту – стварэньне экалягічнага тэатру – была прадыктаваная спалучэньнем творчасьці дзяцей і іх імкненьня абараніць і захаваць навакольны сьвет. Грамадзкае аб'яднаньне "Хрысьціянскае сяброўства моладзі і дарослых" (Ліда) пры падтрымцы амэрыканскай арганізацыі ISAR вылучыла гэты праект ў асобную экалягічную праграму.

Пачалі мы з таго, што сабралі матэрыял пра ступень засьмечанасьці нашага возера. Пятнаццаць навучэнцаў СШ № 15 зьбіралі зьвесткі пра парушэньні, зьліў прамысловага бруду, рабілі "Зялёныя рэйды" на возера, рабілі фатаздымкі. Сабраная інфармацыя стала асновай для напісаньня сцэнару спэктаклю. Калі малявалі эскізы для строяў, то кожны з актораў прыдумваў і характар для свайго пэрсанажу. Важную ролю ў спэктаклі, паводле задумы, мусіў адыгрываць рух. Мінімум словаў і максымум плястыкі. Усе плястычныя кампазыцыі й танцы ў пастаноўцы ставілі самыя дзеці.

Так атрымалася прыгожая гісторыя пра дзяўчыну Ліду, якая любіла сваё Возера, сваіх Лебедзяў, але ня здолела выратаваць усё гэта ад разбурэньня. У выніку Лебедзі адляцелі, Дрэвы перарадзіліся ў мутантаў, Вада скаламуцілася, Сонца пагасла, Рыбы сталі драпежнікамі, але Ліда верыць, што на Зямлі пройдзе цёплы дождж, змые ўвесь бруд і Лебедзі вернуцца.

Прэм'ера спэктаклю адбылася 24 траўня. На яе былі запрошаныя супрацоўнікі Экалягічнага цэнтру дзяцей і юнацтва г. Ліда, прадстаўнікі гарадзенскай Станцыі юных натуралістаў, журналісты, прадстаўнікі мясцовых уладаў, навучэнцы СШ №15 і іх бацькі.

Пасьля спэктаклю юныя акторы распавядалі, якім яны хацелі б бачыць возера, навакольнае асяродзьдзе. Падзяліліся думкамі і госьці. Таіса Гаўрылава, маці Алега (пэрсанаж "Дрэва"):

*-Я не пазнаю сваё дзіця! Які бляск у вачох! Ён увесь захоплены працай над спэктаклем. Ведаеце, Алег стаў больш добрым і цярплівым, нягледзячы на тое, што ў яго зараз "цяжкі ўзрост". Ды й сама я па-іншаму ўбачыла нашае возера.*





Спэктаклі былі паказаныя таксама яшчэ ў трох лідзкіх школах, дзіцячым садку й дзіцячым доме.

Яшчэ адным яркім момантам праекту стаў экалягічны летнік для дзяцей-удзельнікаў праекту. Разьлічаны ён быў на 10 дзён. Жылі ў намётах - каляровых і ўтульных. Незвычайная для дзяцей абстаноўка – вогнішча, сталоўка пад небам, сон на сьвежым паветры спрыялі фармаваньню адчуваньня адзінства з прыродай. І ня трэба было нікому казаць, што ў вогнішча трэба кідаць толькі сухія дровы. Навакольная тэрыторыя была цалкам вызваленая ад сухастою. Праца ў летніку чаргавалася зь цікавымі праграмамі, дзелавымі гульнямі, складаньнем Зялёнай мапы мясцовасьці, размовамі пра прыроду, узаемаадносіны паміж людзьмі.

Праект ускалыхнуў грамадзкую думку ў Лідзе. Адбыліся размовы з прадстаўнікамі аддзелу адукацыі гарвыканкаму, інспэкцыі па ахове навакольнага асяродзьдзя, іншых службаў. Была дасягнутая дамова пра правядзеньне аналягічных праектаў у будучыні. Важна, што ў горадзе распачалася праца па захаваньні навакольнага сьвету й пачалі гэтую працу дзеці, якім жыць і ствараць у XXI-м стагодзьдзі. Тыя асновы, якія былі закладзеныя ў дзіцячыя душы, праз гады дадуць плённы ўраджай.

**Жана Мінько**

# “А ты над возерам плыў?...”



**Гэтую прыгожую, энэргічную, стройную бляндынку я ўпершыню ўбачыла на адным з канцэртаў у тэатры лялек. Там выступаў хор беларускай духоўнай музыкі “Бацькаўшчына”, якім яна кіруе вось ужо 10 гадоў. І закахалася. Словы яе мілагучныя, добрыя, ласкавыя. Яна ня ходзіць, яна лётае, пархае, каб усё пасьпець. За той час, што я ведаю спадарыню Веру, яна ні разу не падвяла, не падманула. Яна любіць быць адна, любіць слухаць цішыню, вельмі любіць прыроду. Шчыра дзеліцца сваёй любоўю і дабрынёй. Асабіста я ўдзячная лёсу, што пазнаёміў нас. Я - багатая. Багатая стасункамі, пачуцьцямі. І ня штучнымі, якія яна так ня любіць, а шчырымі і натуральнымі. Хочаце й вы быць багатымі? Тады знаёмцеся.**

**-Спадарыня Вера, распавядзеце крыху пра сябе. Дзе Вы нарадзіліся, дзе гадаваліся?**

-Ой! (*сьмяецца*). Нарадзілася я далёка ад Беларусі. Нарадзілася я ў Карэліі, на возеры Анега. Мае бацькі ў тыя галодныя часы паехалі зарабляць грошы. Але я, на жаль, іх ня памятаю: мяне, маленькую, вымушаныя былі адправіць у Беларусь, бо я цяжка захварэла з-за тамтэйшых страшных ўмоваў. Гадавала мяне бабуля, вельмі таленавітая жанчына. Ад прыроды мела артыстычныя дадзеныя: выдатна сьпявала й танчыла, была сапраўднай акторкай. Мне Бог таксама падарыў звонкі галасок, як казалі, „званочак“. Бабуля часта брала мяне з сабою на поле,і ў перапынках паміж работай, калі ўсе сядалі адпачываць, мяне прасілі „Ну, малая Саўтручанка, - сьпявай!“ (так звалі нас па-вясковаму). І я з задавальненьнем сьпявала. Сьпявала тыя песьні, што бабуля навучыла.

**--Сьпевы, напэўна, засталіся адным зь яркіх успамінаў дзяцінства. А што яшчэ адклалася ў памяці?**

-Жылі мы тады бедна й ня мелі магчымасьці вучыцца музыцы. А вось у маёй сяброўкі брат з флёту прывёз гармонік. Я хадзіла каля таго гармоніка, хадзіла, мне ж яго не давалі ў рукі браць. І аднойчы я яго ўкрала. Я яго ўкрала і два дні там дзесьці ў кутку на сенавале вучылася граць. Навучылася. Я вельмі любіла сьпяваць. Мурашкі беглі па скуры, калі сьпявалі мужчыны й жанчыны. У бабулі хата была маленькая, але вельмі ўтульная. Збіраліся на вячоркі кабеты і хлопцы, сталыя й маладыя. Там я слухала ўсё: і абрады, і традыцыйныя песьні. Я памятаю, як у доўгія восеньскія вечары, калі за лямпаю сядзелі, рабілі нейкую справу і сьпявалі песьні.Потым прыходзілі хлопцы і пачыналіся жарты, танцулькі. Бабуля любіла мяне выставіць. Паставіць мяне на табурэтку й кажа: „Ну, Верачка, пакажы“. Вельмі мне падабалася, калі мяне хвалілі, заўсёды мне перападала нешта смачненькае.



Яшчэ адзін яркі ўспамін зь дзяцінства. З тых часоў, калі я пайшла ў школу (а вучылася я 10 гадоў у інтэрнаце). Справа ў тым, што да школы было вельмі далёка - 7 вёрст. Вёска была такая, што зь дзетак-аднагодак была адна я, а астатнія - усе хлопцы.І яны чамусьці мяне ўвесь час крыўдзілі, асабліва два хлапчукі-блізьнюкі. А я гэтую злосьць назапашвала й думала: „Ну, вам гэта так ня пройдзе. Дай я ім адпомшчу.“ І я ім адпомсьціла. Заманіла іх у хату і надавала кухталёў. Абодвум адразу. Пасьля мы пасябравалі. Яны мяне апякалі. Сябравала я больш з хлапцамі. Разумею, што дух суперніцтва менавіта ад іх. Я была лыжніцай-рэкардысткай на кароткія адлегласьці, займалася настольным тэнісам.

Жыцьцё ў інтэрнаце было цікавым і вельмі карысным - я выхоўвалася ў калектыве, набывала досьвед стасункаў з рознымі людзьмі. Навучылася вязаць, шыць, вышываць..З пятай клясы была старшынёй савету дружыны. І ў маім распараджэньні быў цэлы піянэрскі пакой. Там стаяла фартэпіяна. Пасьля заняткаў я любіла там гадзінамі граць.

Я вельмі любіла быць адна. Побач з прыродай. Любіла пісаць вершы, вельмі любіла гісторыю. Гісторыя мяне захапяла. Настаўніца дазваляла мне весьці заняткі ў малодшых клясах па гісторыі старажытнага сьвету.І мне падабалася нешта распавядаць, паказваць слайды. Усе ўважліва слухалі.

**-Ці не адчуваеце Вы сябе “дыназаўрам”? У наш “штучны” час, калі жывую музыку замяняе “фанэра”, Вы адраджаеце народныя сьпевы. Ці будзе жыць надалей народная музыка?**



**Імкненьне ёсьць — астатняе за намі !**
**Вера Кунцэвіч у час канфэрэнцыі**
**„Роля жанчыны ў разьвязаньні праблемаў грамадства”**

-Я ў гэтым упэўненая. Па-першае, у ёй вялікая энэргетычная моц. Яна замацаваная стагодзьдзямі, традыцыямі, а таму й ня можа зьнікнуць. Калі, безумоўна, ня будзе мэтанакіраванага зьнішчэньня. А наадварот, калі яе будуць падтрымліваць. Хаця б не перашкаджалі.

Я гэтак люблю беларускія сьпевы! Яны не падобныя на іншыя, іх нельга зблытаць зь іншымі. І я ўпэўненая, што гэткі моцны пласт культуры ня можа быць зьнішчаны. У мяне, напрыклад, маленькі ўнучак, я сьпяваю яму тыя бабуліны песьні. Значыць, ён таксама будзе сьпяваць сваім дзеткам калыханкі. Я сьпявала свайму сыну, сваёй дачцы. Мая дачка мне ніколі не казала, што яна гэта ведае. Але прайшло ўжо больш чым 20 гадоў, яна свайму сыну гаворыць тыя прымаўкі, што я ёй казала.. Існуе пераемнасьць пакаленьняў. Так што гэта ня можа зьнікнуць.

**-Ці ёсьць нейкія адрозьненьні моладзі сёньняшняй ад моладзі Вашага часу?**

-На жаль. Моладзь зараз цікавіць, як лягчэй уладкавацца ў жыцьці, як больш мець, не патрацўшы энэргіі, сродкаў. Як прыстасавацца. Не зрабіць так, як я хачу, а як лягчэй пражыць. А ў мяне такое пытаньне ніколі не ўзьнікала. Кожны чалавек мяркуе пра сьвет праз сваю прызму. І мяне гэта трошкі насьцярожвае.

Я бы хацела, каб моладзь цягнулася да прыроды, да працы, да зямлі. Каб да натуральнага цягнулася. Разумееш, ня кожны чалавек знаходзіць асалоду ў тым, каб проста пайсьці ў лес. Ідуць з цыгарэтамі, зь півам. А можна проста паслухаць цішыню, паслухаць, як сьпяваюць птушкі, паглядзець на заход сонца, паўзірацца на ваду. Сядзець на беразе й доўга-доўга глядзець. І потым адчуваць, што ты паплыў. Вось я колькі разоў задавала такое пытаньне моладзі, аднак ніхто мне не адказаў на яго. Я кажу: “Ты калі-небудзь плыў над возерам?”. Яны не разумеюць: “А як гэта?” Такія тонкія адчуваньні, ўласьцівыя істоце чалавека, губляюцца.

Для мяне гэта нешта штучнае: штучная музыка, штучная тканіна, нейкія штампы. Моладзь саромеецца свайго “Я”. “А чего я? Мне что, больше всех надо?”. Шэрасьць, выхаваньне агулам робіць вялікую шкоду. Чалавек - сам па сабе ўжо каштоўнасьць. Ён адзіны й непаўторны ў Творцы. Я лічу, што няма бяздарных людзей. Мяне так вельмі абурае, калі кажуць “Ты-бездарь”. Гэта абраза для Бога. Я лічу, што менавіта настаўнікам і выхаўнікам - вельмі многа працы. Мне, дарэчы, мая праца дапамагае, таму што я працую індывідуальна. І я маю магчымасьць размаўляць з моладзьдзю.

Кажуць, што прыгажосьць уратуе сьвет, а я лічу, што Дабрыня й Чуласьць. Ня трэба шкадаваць сваёй дабрыні, трэба дзяліцца й сеяць Дабро.

Пустазельля вельмі многа, але ж і праз яго прабіваецца расток.

**-Што Вы лічыце найвялікшым посьпехам у жыцьці?**

-Я знайшла дарогу да Храму. Да стварэньня духоўнага калектыву, да хору беларускай духоўнай музыкі. Гэта маё дзіця, гэта мой вялікі посьпех. Мне ня будзе сорамна, калі адыйду ў іншы сьвет, нават перад бабуляй. Я скажу: "Бабуля, я не згубілася, я прышла да веры". Я была атэісткай, але гэта не маё...

Я рабіла многія казённыя справы, як замбаваны чалавек, як робат. Мне так ішло мэтанакіравана: каб гэты сьлед не знайсьці. Я зь пятай па дзясятую клясу кіравала дружынай. Я адчувала, што мне гэта чужое. Мне сьнілася царква. Мне сьніліся неверагодныя, незвычайныя сьпевы... Каб мне падключылі датчыкі й запісалі тыя творы, якія я сьніла - гэта былі бы шэдэўры.

**-Ці быў такі ўчынак, за які Вам было бы сорамна?**

-Быў. І не адзін. Але толькі Богу буду спавядацца. Дый наагул, стараюся па жыцьці не рабіць людзям крыўды.

**-Якое самае вялікае адкрыцьцё Вы пасьпелі зрабіць за сваё жыцьцё?**

-Было некалькі такіх адкрыцьцяў. Калі я вучылася ў школе, пайшла гуляць па лесе і знайшла там магілку. Прыбегла й кажу: "Я знайшла магілу партызана! Я знайшла!". Пасьля аказалася, што за гэтай магілкай ужо даглядалі людзі.

А вось яшчэ адкрыцьці. Гэта былі апошнія выходныя траўня, у мястэчку на Падлясьсі ў Польшчы. Я паехала туды на рэлігійныя чытаньні.Калі мы вярталіся з Котыню, мы паехалі на службу ў Кастамлуты, там увогуле сьвятая зямля. Да службы заставалася гадзіны паўтары і мы пайшлі гуляць па-над Бугам. Сонейка стала даволі высока і была нейкая дымка. Нашыя польскія сяброўкі папрасілі ім пасьпяваць. І мы ім сьпявалі. Я сьпяваю і гляджу на ваду, потым падымаю вочы да неба - і раптам.... Я гляджу і кажу: "Людзі, гляньце! А там сонца ў арэоле вясёлкі. Як німб сьвятога.. Гэта было ўсяго некалькі хвілін. Божа! І што гэта за прыгажосьць такая?!". Я ніяк не перастаю зьдзіўляцца прыродзе, яе хараству.

І яшчэ, я адкрыла для сябе, што найпрыгажэйшыя людзі жывуць у Беларусі! Калі я бываю за мяжой, там быццам бы ўсё выдатна, цікава. Але калі я пад'яжджаю дадому, мяне ахоплівае такое пачуцьцё, што зараз ува мне ўсё разарвецца. Мне пахне па-свойму лес, мне трава нават не такая, нават сонца па-іншаму сьвеціць. Я не хачу жыць нідзе, толькі на беларускай зямлі!

**Размаўляла Лана Руднік.**

## Візыт у Летуву

**12-14 кастрычніка некалькі прадстаўнікоў маладзёвых грамадзкіх арганізацыяў з Гарадзеншчыны ў складзе беларускай дэлегацыі гасьцявалі ў Летуве. Магчымым вынікам паездкі могуць стаць супольныя праекты беларускіх і летувіскіх маладзёвых арганізацыяў.**

## Бізнэс-тыдзень для беларусаў

**У алімпійскім комплексе „Стайкі" пад Менскам 25-31 жніўня адбыўся „Business Week in Belarus" (Бізнэс-тыдзень у Беларусі).**

Удзел у праграме бралі шкаляры старэйшых кляс і студэнты з Гомелю, Магілёву, Заслаўя, Жодзіна, Сьветлагорску, Менску, Слоніму.

Бізнэс-тыдзень - гэта амэрыканская праграма. Яна існуе ў Штатах ужо з 1976 году й дае асноўныя веды пра бізнэс, эканоміку, пра тое, як распачаць сваю справу.

Навучаньне праводзілі амэрыканцы, а мовай зносінаў на занятках былі беларуская і ангельская. Усе ўдзельнікі былі падзеленыя на 9 камандаў, па 12 чалавек у кожнай. Каманды ўяўлялі зь сябе кампаніі, якія выраблялі DVD-плэеры. На працягу васьмі ўмоўных кварталаў кожная кампанія прымала розныя фінансавыя пастановы: колькі трэба выпусьціць прадукцыі, колькі грошай аддаць на рэкляму, на дывідэнты і г.д. Усе паказальнікі апрацоўваліся на кампутары, за кожны квартал падводзіліся вынікі. Напрыканцы вызначылі пераможцу - кампанію, якая атрымала самыя вялікія прыбыткі.

Удзельнікі бізнэс-тыдню праслухалі таксама лекцыі, якія чыталі як беларускія, гэтак і амэрыканскія прадстаўнікі бізнэсу. Навучаньне „маладых бізнэсоўцаў" суправаджалася спартовымі забавамі, дыскатэкай, шоў талентаў.

**Каця Варанец, удзельніца „Бізнэс-тыдню", г. Слонім**

## Дзень Маці ў Смаргоні

**Амаль поўную залю смаргонскага Дому культуры сабрала сьвята, прысьвечанае Дню Маці. Ладзілі акцыю грамадзкая арганізацыя „Агеньчык надзеі" і аб'яднаньне шматдзетных бацькоў Смаргоні.**

Праграма сьвята складалася з канцэрту мастацкай самадзейнасьці, выставы творчасьці дзяцей, спабору на лепшы восеньскі букет.

Паводле словаў кіраўніцы „Агеньчыку надзеі" сп-ні Валянціны Сячынскай, акцыя сталася адной зь першых сумесных справаў мясцовых грамадзкіх арганізацыяў.





# Юры Качук: З надзеяй на лепшае

**Ужо каторы год жнівеньская Зэльва становіцца месцам ушанаваньня памяці выбітнай беларускай паэткі Ларысы Геніюш. І кожны раз непасрэдны ўдзел у арганізацыі сьвяточных мерапрыемстваў бярэ сп. Юры Качук.**

**- Юрась, на працягу апошніх 5 гадоў ты зьяўляесься ініцыятарам сьвяткаваньня дня народзінаў Ларысы Геніюш у Зэльве. Чаму ты гэта робіш?**

-Таму што Ларыса Геніюш увасабляе ў сабе ўвесь гонар Беларусі. Прозьвішча Геніюш, якое Ларыса Антонаўна займела ад мужа, мае сваё тлумачэньне („Геніюш" азначае „геній", дух).

**- Распавядзі, калі ласка, як ты прыйшоў да беларушчыны.**

-Яшчэ калі я быў юнаком, то ўжо тады меў бунтарскі характар. Мяне нават хацелі выключыць з камсамолу за тое, што на сходзе сказаў, што на Захадзе Леніна не вывучаюць.

Калі я паступіў у 1980-м годзе ў менскі палітэхнічны інстытут, то вельмі спачуваў польскай „Салідарнасьці", а таксама верыў у традыцыі Рэчы Паспалітай Абодвух Народаў. Падчас навучаньня, дзякуючы Лявону Вашко, пачаў адчуваць сябе патрыётам Беларусі. Ён моцна паўплываў на мяне сваёй беларускай мовай, тым, што ўвесь час у ёй размаўляў. У 1984-ым я сеў за падручнікі, слоўнікі і праз паўгады ўжо гаварыў па-беларуску.

**-Як да гэтага паставіліся ў інстытуце?**

-Праз некаторы час мяне выклікалі да сябе намесьнікі дэкана таго факультэту, на якім я навучаўся (а гэта быў модны ў той час аўтатрактарны факультэт). Беларус Аўтушка і расеец Кабанаў. Аўтушка мне: „Ты зьяўляесься рассаднікам беларускага нацыяналізму й можаш ня вытрымаць дзяржаўных выпытаў." А я яму адказваю: маўляў, першае слова ў назьве нашае навучальнае ўстановы - „Беларускі", а ў самой навучальнай установе ані слова па-беларуску.

Тады ўжо расеец Кабанаў кажа: „А сапраўды, чаму ў нас няма беларускай мовы?". Яны мяне адпусьцілі, і я пасьля гэтага выпадку пачаў паважаць расейцаў, якія жывуць у нас у Беларусі.

**-Што яшчэ паўплывала на твой сьветапогляд?**

-Вялікае ўражаньне на мяне зрабілі Задзіночаныя Штаты Амэрыкі, дзе я быў месяц, напрыканцы 1989-га - пачатку 1990-га гадоў. Гэта шчырая краіна, шчыры народ. Там я адчуў водар свабоды, водар цяплыні і шчырасьці. Нават выпадковыя сустрэчы паказвалі мне на самаадданасьць амэрыканцаў, іхнае імкненьне дапамагчы людзям. Амаль адразу пасьля прыезду дадому стаў на шлях БНФ і стаю на ім да сёньняшняга часу.



**-Што, на тваю думку, адбылося з грамадзтвам падчас гэтых прэзыдэнцкіх выбараў, пасьля іх?**

-Гэткіх памыяў на беларускі народ яшчэ ніхто не выліваў. Гэта злачынства - украсьці ў людзей 5 гадоў жыцьця. І ўлада імкнулася спрычыніць да гэтага як мага больш людзей.

Пасьля выбараў шмат людзей былі зьдзіўленыя. Таму што ў Зэльве шмат хто галасаваў супраць усіх, а, паводле афіцыйных вынікаў галасаваньня, вынікае, што аніводны чалавек супраць усіх не прагаласаваў.

**-Якім ты бачыш разьвіцьцё грамадзкіх арганізацыяў Зэльвеншчыны?**

-Раней быў БНФ і шэраг прадзяржаўных арганізацыяў. Было і ёсьць літаратурнае аб'яднаньне „Ліра". У мінулым годзе была спроба зарэгістраваць грамадзкае аб'яднаньне „Гміна", якое на мясцовым узроўні разьвівала б грамадзкую актыўнасьць.

Па прапанове сп.Майсяёнка, стварылі Зэльвенскае краязнаўчае раённае таварыства імя Ларысы Геніюш. У гэтую арганізацыю было прапанавана ўвайсьці нашым мясцовым вэртыкальшчыкам, а таксама ўсім, каму дарагі лёс Зэльвеншчыны.

Газэта „Зяльвяначка", якае выдаецца ў нас у Зэльве будзе мець свой працяг. Зьявіцца жаночая газэта „Надзея" (у памяць аб маёй бабулі, якая мела гэткае імя). Наагул, у нас усё зьвязанае з надзеяй на лепшае. Будзем спрабаваць зрабіць літаратурна-мастацкі часапіс.

Трэба казаць пра сябе... Калі я кажу пра Зэльвеншчыну – я кажу і пра сябе.

**Размаўляў Андрэй Мялешка**

# Ці мы ў стане?..

**Рэпрадуктыўнае здароў'е нацыі можна ацаніць па некалькіх паказальніках: дэмаграфічных (сьмяротнасьць, нараджальнасьць, колькасьць жанчын ад 15 да 49 гадоў, г.зв. фэртыльнага ўзросту), мэдычных (мацярынская сьмяротнасьць, колькасьць абортаў, паказальнік суадноснасьці абортаў і родаў), колькасьці захворваньняў, якія перадаюцца палавым шляхам, частата бясплодзьдзя, кантрацэпцыя. Раней праблемамі рэпрадуктыўнага здароўя ў асноўным займаліся дактары. Цяпер да разьвязаньня гэтай праблемы далучаюцца і грамадзкія арганізацыі.**



Прадстаўнікі гэтых арганізацыяў разам з псыхолягамі і іншымі спэцыялістамі бралі ўдзел ў сэмінары „Мэтады прапаганды і прасоўваньня канцэпцыі рэпрадуктыўнага здароўя і гендэрнай роўнасьці ў грамадзтве", які адбыўся 28-29 верасьня 2001 году. Арганізаваў яго фонд ААН у галіне народанасельніцтва (ЮНФПА). Праводзіла сэмінар Тацяна Гаплічнік. Прыемна, што па колькасьці ўдзельнікаў на сэмінары ў лідэрах апынулася Гарадзеншчына.

Адметнасьцю сэмінару стала прэзэнтацыя II нацыянальнага пляну дзеяньняў па забесьпячэньню гендэрнай роўнасьці на 2001-2005 гады. Дакумант быў зацьверджаны Пастановай Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь 8 траўня 2001 г.

У пляне адлюстраваныя мерапрыемствы ў галіне правоў чалавека, эканомікі і сацыяльнай абароны жанчын, адукацыі, здароўя, удзелу жанчын у працэсе прыняцьця пастановаў на палітычным, заканадаўчым і выканаўчым узроўнях, гвалту ў дачыненьні да жанчын.

Напрыклад, у разьдзеле „Жанчыны і правы чалавека" ёсьць прапанова распрацаваць праект Закону РБ „Пра роўныя магчымасьці". У Летуве, згодна з Законам аб роўных правох, забаронена ў абвестках (напрыклад, аб вольных працоўных вакансіях) пісаць пол (акрамя некаторых выняткаў). Таксама важнай зьяўляецца прапанова ажыцьцяўляць гендэрную экспэртызу заканадаўчых і нарматыўных актаў і іх праектаў.

У разьдзеле „Жанчыны і эканоміка. Сацыяльная абарона жанчын" нададзеная ўвага развіцьцю малога і сярэдняга бізнэсу, індывідуальнага прадпрымальніцтва і фэрмэрства сярод жанчын: навучаньне жанчын асновам прадпрымальніцтва, распрацоўка праграмы мікракрэдытаваньня, стварэньне бізнэс-інкубатараў малога прадпрымальніцтва, распрацоўка адрасных праграм жыльлёвага будаўніцтва з крэдытаваньнем сем'яў.

Паводле разьдзелу „Жанчыны і адукацыя", Міністэрству адукацыі прапануецца спрыяць ліквідацыі праяваў гендэрнай дыскрымінацыі ў галіне адукацыі шляхам перагляду навучальных праграм і навучальных дапаможнікаў з мэтай вызваленьня іх ад гендэрных стэрэатыпаў, праз падрыхтоўку і перападрыхтоўку выкладнікаў, увядзеньне ў навучальныя праграмы спэцыяльных курсаў па гендэрнай праблематыцы.

> **Да гэтага часу мала хто ведае, што такое „рэпрадуктыўнае здароўе". Многія атаясамляюць гэты тэрмін з аднаўленьнем роду. Але ў адпаведнасьці з рэкамэндацыямі Праграмы дзеяньняў Міжнароднай канфэрэнцыі па пытаньнях народанасельніцтва й развіцьця (Каір,1994 г.), пад „рэпрадуктыўным здароў'ем" разумеецца стан поўнага фізычнага і сацыяльнага дабрабыту, а ня толькі адсутнасьць захворваньняў, якія тычацца рэпрадуктыўнай сфэры.**

Зьвернем увагу на тыя мерапрыемствы, у выкананьні якіх, паводле пляну, могуць браць удзел грамадзкія аб'яднаньні: прапаганда па прафіляктыцы захворваньняў, азнаямленьне насельніцтва з нормамі міжнароднага права па праблеме гвалту ў дачыненьні да жанчын, спрыяньне стварэньню ўстановаў сацыяльнага абслугоўваньня, якія аказваюць дапамогу жанчынам-ахвярам гвалту, ажыцьцяўленьне праграмы рэабілітацыі ахвяраў гвалту й гандлю людзьмі. Цікава, што у такіх разьдзелах, як „Жанчына і СМІ", „Жанчыны і адукацыя" грамадзкіх арганізацыяў ў выканаўцах няма. У астатніх разьдзелах НГА сустракаюцца, але з рэмаркай „зь іх згоды". Аднак тое, што НГА наагул узгадваюцца ў „Нацыянальным пляне", ужо можна лічыць посьпехам трэцяга сэктару, які даказаў, што ў стане разьвязваць сацыяльныя праблемы.

**Лана Руднік**

## Для Вас, кабеты...

**Зь першых дзён кастрычніка гарадзенскі Інтэрнэт-цэнтар "Мадэм" прапануе выхад на сайт Інфармацыйна-рэсурснага цэнтру (www.rcwi.org) для жаночых арганізацыяў гораду й вобласьці.**

Электронны інфармацыйна-рэсурсны цэнтар працуе ў межах Праграмы разьвіцьця жаночага лідарства ACDI/WOCA. Цэнтар прапануе больш за 30 тэм у падразьдзелах "Навіны", "Арганізацыі", "Бібліятэка", "Форум", "Пра нас".

*– Мы дапаможам жаночым арганізацыям зьмясьціць у Інтэрнэце інфармацыю пра сябе, знайсьці міжнародныя кантакты, апублікаваць свае артыкулы і дасьледаваньні,* - распавяла дырэктарка цэнтру "Мадэм" Валянціна Суворына.

**Алена Сіневіч, "Пагоня"**



## Каўнтэрпарт абвяргае чуткі

**Прадстаўніцтва Counterpart International, Inc ў Беларусі абвергла інфармацыю пра тое, што зварочвае дзейнасьць у нашай краіне.**
**Інфармацыя пра "зварочваньне дзейнасьці" была надрукаваная 1 кастрычніка ў "Беларускай газеце".**

Як гаворыцца ў распаўсюджаным тыднем пазьней прэс-рэлізе беларускага прадстаўніцтва Counterpart International, Inc., гэтая амэрыканская арганізацыя працягвае сваю працу ў Беларусі па ажыцьцяўленьні Праграмы Партнэрства Альянсу Каўнтэрпарт (CAP) і Праграмы прадстаўленьня гуманітарнай дапамогі й разьвіцьця супольнасьці (CHAP).

Праграма CAP дзейнічае ў нашай краіне з 1997 году. Яе галоўная мэта – спрыяньне пабудове грамадзянскай супольнасьці ў Беларусі праз умацаваньне грамадзкіх арганізацыяў і іх ролі ў грамадзтве.

З сакавіка 1997 да верасьня 2001г.г. беларускія НГА атрымалі ў межах праграмы больш 100 грантаў. Апроч гэтага, CAP прадстаўляла адукацыйную, кансультацыйную і тэхнічную дапамогу беларускім грамадзкім арганізацыям.

У межах Праграмы CHAP Беларусь з 1995 году атрымала гуманітарную дапамогу на агульную суму звыш 28 мільёнаў даляраў. Дапамога была распаўсюджаная сярод 257 НГА, 228 шпіталяў і клінік, а таксама 151 адукацыйнай установы. Паводле прэс-рэлізу, CHAP будзе працаваць у нашай краіне да 2004 году.

**Прадстаўніца CAP у Беларусі – Валянціна Канаш.**
**тэл. (0-17) 217-77-73, 217-77-74**
**факс 217-77-82**
**e-mail: cap@nsys.by**

**Дырэктар CHAP па Беларусі – Уладзімер Хадорчанка.**
**тэл. (0-17) 220-5555**
**e-mail:**
**chap-belarus@infonet.by**

**Апытаньне "ТС"**

# Нараджаем разам?

**Адным з аспэктаў рэпрадуктыўнага здароўя зьяўляецца актыўны ўдзел абодвух бацькоў у працэсе нараджэньня й выхаваньня дзіцяці. У многіх краінах прысутнасьць бацькі ў момант нараджэньня яго дзіцяці амаль нікога ўжо не зьдзіўляе. А што думаюць на гэты конт прадстаўнікі нашых грамадзкіх арганізацыяў?**



**Аляксей Агароднікаў ( Нацыянальная Рада Маладзёвых арганізацыяў, г.Менск).**

*У мяне пакуль няма жонкі, але калі будзе, то ўсё будзе залежаць ад яе думкі. Я згодны, калі захоча жонка. Гэта ж ня я нараджаю дзіця, а жонка.*



**Аляксандар Арцюшчанка („Хрысьянская садружнасьць маладых і дарослых", г.Ліда)**

*Так, я бы хацеў прысутнічаць. Гэта проста неабходна ведаць мужчынам. З аднаго боку, для жанчыны самастойна з гэтым справіцца даволі цяжка, з другога - дапаможа мужчынам лепей разумець жанчын. А таксама зьявіцца адчуваньне адзінства. Быць разам: муж, жонка, дзіця.*



**Валянціна Радзівонцава (ГА „Сям'я"):**

*Не. Я б пасаромелася. Там мужчына не патрэбны. Гэта мая работа - нараджаць. І я не хачу, каб ён бачыў гэты боль. Але адразу пасьля родаў абавязкова патрэбны!*



**Наталя Клімчук (ГА маладых навукоўцаў „ВіТ"):**

*У маёй знаёмай муж прысутнічаў пры родах. Яму стала кепска. Яго, беднага, хвілін праз 15 пад рукі вывелі. А я хацела б. Чаму(сьмяецца)? Каб было весялей. Але калі сур'ёзна, то я бы хацела нараджаць за мяжой. Страшна тут.*



**Тацяна Канопкіна (ГА" Ратуша"):**

*Я б не хацела, каб хтосьці прысутнічаў пры гэтым. Таму што дзіцятка трэба вынасіць, адчуць кожны яго рух, адчуць, як яно расьце, разьвіваецца. Тое, што мужчына ўбачыць, ён не адчуе гэтак блізка. Для яго гэта фізіялягічны працэс. Гэта тое самае, каб яназірала, як нараджае сабака, ці кошка.*



**Вітаўт Руднік („Цэнтр "Трэці сектар", г.Гародня):**

*Па-першае, скажу, што мяне гэта трохі палохае. Страшна. Тое, што даводзілася бачыць па тэлевізіі, і жахлівыя гісторыі, якія даводзілася чуць пра кесаравыя сячэньні, выклікаюць у мяне сумневы, што я наагул магу вытрымаць гэткае відовішча. Але калі мая падтрымка будзе сапраўды вельмі неабходная, то... прыйду, патрымаю за ручку... мэдсястру (з жартам).*

**Аляксандра Аскірка (ГА „Маладая грамада"):**

*У нас двое дзетак. І калі я нараджала другое, мой муж, Валянцін, пры гэтым прысутнічаў. У чым розьніца? Амаль ніякай. Проста прыемна, што ён побач. Калі зараз узгадваем, то ён з гонарам кажа: „Мы нарадзілі!".*

**Цікавілася Лана Руднік.**

**P.S. Як паведамілі нам у Гарадзенскім раддоме, сумесныя роды - гэта не праблема. Патрэбна толькі напісаць заяву на імя галоўнага доктара і прынесьці даведкі, што тата здаровы. І, калі ласка, - нараджайце!**

# Антон Лабовіч: Святкаванне на касцях продкаў?

**На 21-га верасня прыпадаюць 200-я ўгодкі ўваходжання Гарадзеншчыны ў склад Расійскай імперыі. Аблвыканкам стварыў аргкамітэт. Зацверджаныя мерапрыемствы, адным з пунктаў якіх прадугледжана шырокае азнаямленне грамадскасці са зменамі ў жыцці беларуса за мінулыя два стагоддзі. Каманда была пададзеная, публікацыі з'явіліся...**

### У каго якая аб'ектыўнасць?

Разлічваць на аб'ектыўнасць у артыкулах не даводзіцца. Кампанія больш нагадвае палітычнае шоу. Заранёў былі ўсталяваныя параметры, адпаведныя плыні сучасных беларуска-расійскіх стасункаў. Гэта – прапаганда гістарычнага славянскага братэрства народаў, эканамічнага, духоўнага і рэлігіёзнага адзінства, адвечнае імкненне беларусаў пад крыло царскага дзвюхгаловага арла, сумесны пошук дарогі да шчасця і г.д.

Гэтак трактуюць факт паглынання Беларусі Расійскай Імперыяй дзяржпісцы. Большасць папросту нават не зазірала ў іншыя выданні па гісторыі акрамя зборніка сумна знанага прафесара Абэцэдарскага. Навукоўцы, якія канчаткова не страцілі сумлення, маўчаць. А прыдворныя - шчыруюць, падганяюць гістарычныя падзеі на свой капыл, ва ўгоду існаму рэжыму. Але ісціна заўсёды знойдзе еваю дарогу.

### У Вялікім княстве Літоўскім мы мелі ...

У 1993 годзе газета "Звязда" паведаміла пра Вялікае княства Літоўскае наступнае. Гэтая сярэднявечная Беларуская поліэтнічная ўнітарная дзяржава паўстала ў 13-14-м стагоддзях. Найбольшы росквіт назіраўся ў 15-м – першай палове 17-га ст. У канцы 18-га ст. была паглыненая Расіяй. Найвышэйшы заканадаўчы орган – Галоўны З'езд, дэпутаты якога абіраліся на павятовых сойміках шляхты. Гарады мелі самакіраванне (Магдэбургскае права). Краінай кіраваў Вялікі князь. Справаводства вялося па-беларуску. Меўся ўласны Герб – Пагоня.

Жыццё ладзілася паводле Статута – агульнапрынятага збора законаў. Была цвёрдая падатковая і валютна-грашовая сістэма. Дзейнічаў адзіны прынцып судовага адміністрацыйнага ўпарадкавання, агульны парадак прызначэння кіраўнікоў земляў, адзінае войска. Па-сутнасці, ВКЛ была беларускай імперыяй, якая абвяшчала свае прэтэнзіі на пяршынства ў славянскім свеце, асабліва ў часы Вітаўта, Казіміра, Баторыя. Быў нават план крыжавага паходу "праз Маскву на Турэччыну".

Панаваў адносна дэмакратычны лад, адсутнічала жорсткая тыранія, была абмежаваная манархія. Урад бараніў грамадзянскія правы і свабоды грамадзянаў. Грамадства набліжалася да рэлігійнай і этнічна-культурнай цярпімасці. У розныя часы сталіца мясцілася ў Наваградку, Вільні.

### А як яно было папраўдзе?

Падзелы Польшчы (у яе складзе - ВКЛ) адбыліся ў 1772, 1793 г. Наш край адыйшоў пад расійскае панаванне 25 лістапада 1795 г. Засталіся шматлікія ўспаміны, сведчанні, гістарычныя запісы, дакументы, вывучаючы якія, можна ўявіць жыццё Беларусі пад Расіяй у 19-м – 20-м стагоддзях. Вацлаў Ластоўскі сведчыць, што ніякага "вызвалення "рускага" народу з-пад уціску Польшчы" не было. Ненажэрнаму расійскаму дваранству патрэбны былі дармовыя тэрыторыі. Геаграфічна Беларусь бліжэй да Расіі – туды і патрапіла. Украінская Галіччына, напрыклад, з 3-4 мільёнамі праваслаўнага люду стала часткаю Аўстрыі.

Адразу пачалося абрусенне. Расійскім чыноўнікам раздаваліся маёнткі, прыехалі дзяржаўныя службоўцы. Быў скасаваны Літоўскі Статут. Уся шляхта была залічана да палякаў па нацыянальнасці, просталюдзіны – да рускіх. Уніяцкая царква, якая трывала на Беларусі 243 гады, перараблялася на праваслаўную. Палітычны характар "аб'яднання" падкрэслівае факт пашырэння правоў польскай шляхты над беларускім народам. Пасля паўстання 1831 г. шляхта часова страціла сваю перавагу. У 1863 годзе адкрыта пачалося пісацца, што Беларусь – чыста расійскі край.

Вядомы гісторык Мітрафан Доўнар-Запольскі ўдакладняе тэрыторыі, далучаныя да Расіі. Ён адзначае, што падаткі ў Расіі былі больш цяжкімі, чым у былой Польшчы. Палітыка Расіі палягала ва ўвядзенні ў нашым краі рускага заканадаўства, рускага адміністрацыйнага падзелу і ўвядзенне рускай мовы. Імператар Павел сімпатызаваў палякам. Ён вызваліў і ўшанаваў Т.Касцюшку і іншых удзельнікаў паўстання, падтрымліваў каталіцызм і нават езуітаў. Польскім магнатам вярталася зямля – Патоцкім, Чацкім, Вяшкевічам і інш. Моцны польскі ўплыў захаваўся і пры Аляксандры I. Адкрыліся шырокія магчымасці для ўзмоцненай паланізацыі.

### Якія мэты праследаваліся?

Царскі ўрад ставіўся да беларусаў, як да разменнай манеты. У 1812 годзе, адступаючы, царскія войскі знішчалі прыпасы, каб не пакідаць іх ворагу. Беларусы баранілі сваю маёмасць. Рускія пакідалі нашых людзей без запасаў харчавання таксама ў 1914 і 1941 г.г., знішчалі іх маёмасць, вывозілі ўсё, што толькі можна. Хіба брат кідае ворагу роднага чалавека на галодную згубу?

Даследчыкі Язэп Найдзюк і Іван Касяк даводзяць, што галоўнай мэтай Расіі пасля 1795 года была поўная русіфікацыя беларусаў. Адсюль і ліквідацыя царкоўнай уніі як нацыянальнай рэлігіі жыхароў заходняга краю, прысылка праваслаўнага духавенства, настаўнікаў. Эканамічны прыгон стаў больш жорсткім, чым пры Польшчы. У шэсць разоў павялічыліся падаткі. Сяляне не мелі ніякай свабоды. Імі гандлявалі, як быдлам. Панавалі голад і бяда. Гарады былі пазбаўленыя Магдэбургскага права, знішчаныя ваяводствы. Замест іх увялі губерні. Пачаліся пастаянныя народныя бунты як супраць расейцаў, так і супраць польскіх паноў. Аляксандр I у 1811 годзе, спрабуючы адгарадзіць Расію ад Напалеона, вырашыў стварыць буферную дзяржаву – адрадзіць Вялікае Княства, якое павінен быў узначаліць Агінскі. Гарадзеншчына трапляла ў гэтае ўтварэнне. Задума не атрымалася. Напалеон таксама абвясціў аб адраджэнні ВКЛ з асобным ад Варшавы ўрадам. Аднак і тут не пашанцавала.

### Як беларусы ставіліся да "аб'яднання"?

Як ні душылі маскавіты беларусаў, аднак перайначыць іх не ўдалося. Войны зруйнавалі край, а беларускае слова жыло. Беларускай справай зацікавіліся навукоўцы. Раз-пораз успыхвалі паўстанні. Найбольш моцна ўскалыхнуў грамадства выступ Кастуся Каліноўскага. У 1867 г. царскім загадам быў забаронены друк па-беларуску. Беларус Ігнат Грынявіцкі забіў Аляксандра II. Узнікаюць падпольныя беларускія грамадскія арганізацыі. Такім было сапраўднае "імкненне" беларусаў да "аб'яднання" з Расіяй.

### Мы – "сапсаваныя рускія"?

Гісторыкі В.Голубеў, У.Крук, П.Лойка ўдакладняюць, што ўключэнне беларускіх зямель у склад цэнтралізаванай моцнай дзяржавы прынесла некаторую палітычную стабільнасць. Магнатам было забаронена трымаць уласнае войска. Новы імпульс атрымала развіццё эканомікі. Назіраўся рост пасяўных плошчаў, сельская гаспадарка станавілася таварнай. У Гарадзенскай губерніі з васьмі найбольш буйных прадпрыемстваў, якія існавалі ў 1798-1799 г., пяць былі створаныя пасля далучэння да Расійскай імперыі.

Аднак становішча простага чалавека пагоршылася. У сялян забіралі землі, павялічылася адпрацоўка на памешчыка. Пашыралася дармовая прыгонная праца. Праводзілася палітыка поўнага адмаўлення самабытнасці і адметнасці Беларусі. Раздзімаўся міф пра шматвяковае імкненне беларусаў увайсці ў склад Расійскай імперыі. Нашы землі аб'яўляліся "исконно русскими", а мы самі – "сапсаванымі рускімі". У 1840 г. была выкрэслена з ужывання назва "Беларусь". З'явіўся "Северо-Западный край". Было забаронена вучыцца па-беларуску, мову выключылі з ужытку. Рускія спецыялісты мелі шмат прывілеяў у набыцці ўласнасці, найперш зямель.

Усевалад Ігнатоўскі падкрэслівае вельмі цяжкае становішча беларускага сялянства, спасылаючыся на відавочцаў, прыводзіць выпіску з занатовак сучасніка дзекабрыстаў У.Тургенева: "...в белоруссих провинциях крестьяне так несчастны, что вызывали сострадание даже русских крепостных...Эти несчастные провели дороги в окрестностях Царского Села". Была ўстаноўлена мяжа жыдоўскай аседласці. Пачалася масавая эміграцыя больш энергічных і здольных людзей. Беларусы трапілі пад наймацнейшы нацыянальны і сацыяльны ўціск. Аднак гэта не прывяло да поўнага заняпаду. Напачатку 90-х гадоў 19-га стагоддзя засноўваюцца рэвалюцыйныя гурткі. Імкліва расце нацыянальная свядомасць беларусаў.

Вось такім было сапраўднае жыццё у "аб'яднаных" Беларусі і Расіі. Пра добраахвотнасць і адзінства гаворкі няма. Гэты шлях быў паліты крывёю нашых дзядоў-прадзедаў. Паўстанні і войны перакатваліся праз наш край. Сотні тысяч забітых і закатаваных землякоў. Ваяўнічая русіфікацыя патрабавала ахвяраў. На жаль, беларусы пад бізунамі і глумам, пакаленне за пакаленнем, усмакталі неўласцівы ім лад жыцця, амаль страцілі нацыянальную годнасць і гонар. Хіба гэта свята – 200-годдзе ўласнага скарэння? Толькі людзі без памяці могуць услаўляць такую дату, ды яшчэ янычары, узгадаваныя прыхаднямі паводле вобразу і сутнасці сваёй. Адным словам, паганцы...

21 верасня 1801 года ўказам Аляксандра I былі аднаўлены Віленская і Гарадзенская губерні, якія ўваходзілі ў склад Літоўскага генерал-губернатарства. Урачыстае абвяшчэнне губерні адбылося ў памяшканні Гарадзенскага тэатра 21-га чэрвеня 1802 года. Прысутнічаў сам імператар.

Беларускія чыноўнікі збіраюцца славіць 200-годдзе перамогі над сваімі продкамі расейскага дзвюхгаловага арла. Летувісы прынародна святкуюць вызваленне ад гэтага прывіду. Адчуваеце розніцу?

# Канфэрэнцыя, прысьвечаная краявіду

**У канцы ліпеня ў вёсцы Камарова, што на Мядзельшчыне, праходзіла міжнародная канфэрэнцыя-сэмінар "Практычныя і тэарэтычныя праблемы адраджэньня культурнага краявіду Беларусі". Арганізатарамі мерапрыемства выступілі менскі Цэнтар грамадзянскае адукацыі Эўрапейскага гуманітарнага ўнівэрсытэту і арганізацыя "Жанчыны за адраджэньне Нарачанскага Краю".**

Вядома ж, канфэрэнцыя з гэткай тэмай папросту не магла адбыцца без належнага ўдзелу ў ёй ГМКІ "Краявід"! Дарэчы, малады краязнаўца-"краявідавец" Валеры Руселік аказаўся адзіным прадстаўніком "трэцяга сэктару" Гарадзеншчыны ў Камарове.

Гасьцей з усіх куточкаў Беларусі, а таксама зь Летувы, Польшчы і Швайцарыі цёпла віталі дырэктар Сьвірскага сельгасліцэю сп. Эдуард Вайцяховіч ды ягоная жонка спн. Ала. Менавіта праект аднаўленьня сядзібы і пэйзажнага парку графа Камінскага ў вёсцы Камарова, які сёньня імкнецца рэалізаваць сям'я Вайцяховічаў, стаўся галоўным момантам усяе канфэрэнцыі.

Падчас канфэрэнцыі адбылася сустрэча із сп. Анджэем Струмілам, усясьветна вядомым скульптарам і мастаком, які адмыслова дзеля гэтага прыехаў у Камарова з Польшчы.

Увечары, стомленыя, але вельмі задаволеныя сабой і сваёй плённай працай, удзельнікі канфэрэнцыі вандравалі па графскім парку ды сярод сядзібных забудоваў, пужаючы шматлікіх тутэйшых вінаградных смаўжоў. Гэтаксама гасьцінныя Вайцяховічы арганізавалі паездкі да чысьцюткае лясное рэчкі Страча й незабыўна прыгожых Блакітных Вазёраў, што месьцяцца на тэрыторыі Нарачанскага заказьніку.

**Вінцэнт Буць**

# Новы спабор САР

☑ **Прапановы**

**Праграма Партнёрства Альянсу Каўнтэрпарт (САР) абвесьціла новы спабор праектаў, накіраваны на падтрымку грамадзянскіх ініцыятываў і грамадзянскай адказнасьці.**

Прыярытэтнымі мэтавымі групамі зьяўляюцца моладзь (у т. л. вясковая) і жанчыны (у т. л. вясковыя).

Мэта праграмы: аблегчыць доступ грамадзян да інфармацыі і павялічыць удзел грамадзян ў прыняцьці пастановаў па эканамічных, сацыяльных і палітычных пытаньнях, г. зн. спрыяць больш шырокаму інфармаваньню насельніцтва і павышэньня грамадзянскага ўдзелу з дапамогай:

- ініцыяваньня стварэньня цэнтраў/клюбаў, якія будуць забясьпечваць доступ да інфармацыі і аб'ядноўваць прадстаўнікоў мясцовай супольнасьці ў працэсе выяўленьня і разьвязаньня мясцовых праблем;
- праграм маладзёвага і жаночага лідарства;
- праграм, накіраваных на асьвету і навучаньне грамадзянаў у сфэры грамадзянскіх правоў, лідарства, прадпрымальніцтва, самакіраваньня;
- інфармацыйных і асьветніцкіх кампаніяў грамадзкіх аб'яднаньняў у супрацоўніцтве з сродкамі масавай інфармацыі ў справе разьвіцьця грамадзянскага ўдзелу;
- супрацоўніцтва і аб'яднаньне намаганьняў розных арганізацыяў для вызначэньня і разьвязаньня агульных праблем;
- спрыяньне грамадзянам у прыняцьці на сябе адказнасьці за вызначэньне і разьвязаньне прыярытэтных пытаньняў, у тым ліку ў працэсе выбараў у мясцовыя ворганы самакіраваньня, разьвязаньні праблем у сфэры аховы здароўя і абароны навакольнага асяродзьдзя; стварэньні альбо актыўным удзеле ў структурах грамадзтва;
- прадстаўленьне доступу й навучаньня ў карыстаньні кампутарам, інтэрнэтам, факсам, тэлефонам, памнажальнай тэхнікай;
- спрыяньне кампаніям маладзёвых/студэнцкіх ініцыятываў па абароне інтарэсаў супольнасьці (гэтыя праграмы павінны ажыцьцяўляцца ў супрацоўніцтве з мясцовымі юрыстамі), якія прадугледжваюць прыцягненьне грамадзянаў да грамадзкай дзейнасьці;
- спрыяньне кааліцыям для фармальнага і нефармальнага супрацоўніцтва НГА альбо паміж НГА і грамадзянамі.

**Умовы**

Удзел у спаборы могуць браць толькі зарэгістраваныя грамадзкія арганізацыі ў партнэрстве з камэрцыйнымі, дзяржаўнымі й іншымі грамадзкімі арганізацыямі і ўстановамі.

Дзейнасьць па праекце мусіць адпавядаць статуту арганізацыі і досьведу працы ў вышэйпералічаных сфэрах. Грамадзкая арганізацыя павінна пацьвердзіць наяўнасьць валютнага рахунку, а таксама ўласны ўнёсак у рэалізацыю праекту ў памеры не менш як 10% ад сумы, запрошваемай у САР.

Арганізацыя павінна мець навыкі ацэнкі эфэктыўнасьці ўласнай дзейнасьці і прадугледзіць яе ў рэалізацыі меркаванага праекту. Прыярытэт будуць мець праекты, якія будуць ажыцьцяўляцца ў Горках, Смаргоні, Жодзіне, альбо ў партнэрстве з арганізацыямі з гэтых гарадоў. Перавага будзе аддавацца праектам, якія прадугледжваюць максымальна шырокі ахоп мэтавай групы і супрацоўніцтва з іншымі арганізацыямі.

Праекты, накіраваныя на падтрымку палітычных партыяў альбо рэлігійных арганізацыяў, да разгляду не прымаюцца.

Тэрмін дзеяньня гранту - **да 4-х месяцаў.**

Памер гранту - да **$ 2000**.

Заяўкі прымаюцца зь **1 лістапада 2001 году** і разглядаюцца па меры паступленьня. Форму заяўкі і кансультацыю можна атрымаць ў менскім офісе САР, папярэдне зьвярнуўшыся па ніжэйпададзеных тэлефонах: **(8-017)217-77-73, 217-77-74.**

# Дапамога ў самастойнай адукацыі - па ліцэнзіі

**Грамадзкія арганізацыі Беларусі чакаюць сур'ёзныя выпрабаваньні. Бліжэйшым часам сьвет убачаць Палажэньні аб ліцэнзіяваньні дзейнасьці па аказаньню дапамогі грамадзянам у самастойнай адукацыі.**

Пад абавязковае ліцэнзіяваньне падпадае „дзейнасьць па аказаньню дапамогі грамадзянам у самастойнай адукацыі ў формах народнага ўнівэрсытэту, школы, лекторыя, нацыянальна-культурнага (іншага) цэнтру і курсаў". Такога кшталту дзейнасьць зараз павінна будзе ажыцьцяўляцца юрыдычнымі асобамі на падставе ліцэнзіяў, выдаваных аблвыканкамамі й Менскім гарвыканкамам. Гэта прадугледжана Пастановай Савету Міністраў „Аб дзейнасьці па аказаньню дапамогі грамадзянам у самастойнай адукацыі" (№ 93 ад 26 сакавіка 2001 году).

Паводле нашых зьвестак, кошт ліцэнзіі, якая будзе выдавацца на пяць гадоў, складзе 15 мінімальных заробкаў. Каб атрымаць гэтую паперчыну, арганізацыям давядзецца таксама прадставіць цэлы шэраг даведак: пра наяўнасьць адпаведных памяшканьняў і выкладнікаў, дазволы ад пажарнікаў і санстанцыяў, апісаньне навучальных праграм, натарыяльна завераныя копіі заснавальных дакумэнтаў і г.д.

Разглядаць заявы будуць спэцыяльныя ліцэнзійныя камісіі, створаныя пры Ўпраўленьнях адукацыі.



# Праграма ISAR „Зьберажы росы белыя"

**Амэрыканская арганізацыя «ISAR, Inc» (Ініцыятыва ў падтрымку грамадзкай дзейнасьці і адраджэньня ў Эўразіі) абвясьціла працяг праграмы "Зьберажы росы белыя".**

Праграма прадугледжвае прадстаўленьне фінансавай і тэхнічнай дапамогі грамадзкім арганізацыям Беларусі й будзе ажыцьцяўляцца на працягу кастрычніка 2001 – верасьня 2002 г.г.

Мэта праграмы: спрыяньне разьвіцьцю грамадзкага экалягічнага руху Беларусі шляхам падтрымкі дзейнасьці НГА, накіраванай на разьвязаньне праблем у галіне аховы навакольнага асяродзьдзя.

Праграма прадстаўляе гранты на рэалізацыю экалягічных праектаў у наступных сфэрах:

- экалягічная адукацыя й выхаваньне;
- выданьне інфармацыйных матэрыялаў экалягічнай скіраванасьці;
- прававыя аспэкты экалёгіі;
- разьвіцьцё інфармацыйных сетак у сфэры экалёгіі, дзейнасьць інфармацыйных экалягічных цэнтраў;
- экалягічны маніторынг, грамадзкая экалягічная экспэртыза, акцыі, накіраваныя на прадухіленьне забруджваньня навакольнага асяродзьдзя;
- экалягічныя спосабы вядзеньня гаспадаркі (утылізацыя выкідаў, рацыянальнае прыродавыкарыстаньне і г.п.);
- захаваньне дзікой прыроды і прыродных ляндшафтаў, прыроднакультурнай спадчыны.

Да ўдзелу ў праграме запрашаюцца зарэгістраваныя беларускія НГА.

Праграмай прадугледжваюцца два віды грантаў:

- звычайны грант (да 2000 даляраў ЗША);
- дыскрэтны грант (да 500 даляраў ЗША), які прызначаецца для выкананьня праектаў, якія патрабуюць тэрміновага фінансаваньня.

Для ўдзелу ў спаборы трэба падаць заяўку ў расейскай мове, а таксама рэзюмэ выканаўцаў праекту і копію статуту арганізацыі.

Заяўкі прымаюцца ў Прадстаўніцтве «ISAR,Inc» ў Менску па адрасе: **г.Менск 220048, вул. Замкавая, д.28, к.16, т./факс (0-17 )223 84 98.**

Заяўкі накіроўваюцца звычайнай поштай.

Кансультацыі можна атрымаць па пададзеным вышэй нумары тэлефона альбо праз e-mail: **belisar@solo.by**.

Тэрмін падачы заявак на атрыманьне звычайнага гранту:

- **да 10 сьнежня 2001г.** (для разгляду на паседжаньні Рады экспэртаў 19.01.2002 г.);
- **да 20 студзеня 2002г.** (для разгляду 02.03.2002 г.).

# Спабор Эўрапейскай Камісіі

**Эўрапейская камісія абвяшчае спабор праектных прапановаў у межах Праграмы разьвіцьця грамадзянскай супольнасьці (разьдзел мікрагрантаў).**

Праграма мае на мэце спрыяньне працэсу дэмакратызацыі, вяршэнства закону, разьвіцьця грамадзянскай супольнасьці й абароны правоў чалавека. Праграма адначасова мае на мэце дапамогу дзейнасьці мясцовых няўрадавых арганізацыяў, якія працуюць у наступных накірунках: 1) прадстаўленьне дапамогі жанчынам з фізычнымі, разумовымі альбо псыхічнымі траўмамі, прычынамі якіх сталі хваробы, кепскае альбо жорсткае абыходжаньне, гвалт; 2) дапамога ў сацыяльнай рэабілітацыі ізаляваным групам насельніцтва (такім, як інваліды, беспрацоўныя, малапісьменныя, сацыяльныя меншасьці і г.п.); 3) спрыяньне ў сталым сацыяльным і мэдычным даглядзе за састарэлымі людзьмі, бяздомнымі дзецьмі, ахвярамі жорсткага абыходжаньня, ВІЧ-інфэкаванымі і г.д. Праграма таксама ставіць сваёй задачай ажыцьцяўленьне мерапрыемстваў у межах усёй краіны, каб пазьбегнуць абмежаваньня дзейнасьці толькі межамі Менску й Менскай вобласьці.

**Выдаткоўваюцца гранты ў памеры ад 5 000 да 50 000 Эўра. Апошні тэрмін падачы заявак – 18 сьнежня 2001 году. За дадатковай інфармацыяй зьвяртайцеся ў Аддзяленьне Прадстаўніцтва Эўрапейскай Камісі ў Беларусі па электроннай пошце: tacis_eudel@infonet.by, альбо па тэлефоне: (0-17) 206-66-13.**

# "Твая будучыня залежыць ад Цябе!"

**Пад такой назвай з траўня па жнівень грамадзкае аб'яднаньне "ВІТ" пры падтрымцы Праграмы Партнёрства Альянсу Каўнтэрпарт рэалізоўвала праект па разьвіцьцю грамадзянскага ўдзелу моладзі Гарадзеншчыны ў разьвязаньні мясцовых грамадзка значных праблем.**

У траўні ў межах праекту быў выдадзены мэтадычны дапаможнік "Твая будучыня залежыць ад Цябе!", які распавядае пра арганізацыю эфэктыўных трэнінгаў для маладых людзей па тэме "Грамадзянскі ўдзел і адказнасьць моладзі."

У чэрвені-ліпені ў Гародні прайшлі 2 трэнінгі па падрыхтоўцы мультыплікатараў. Мэтай трэнінгаў было навучаньне перадачы атрыманых ведаў моладзі ў малых гарадах і мястэчках вобласьці.



**У ліпені-жніўні ў Гародні, Ашмянах, Смаргоні, Мастох, Слоніме адбыліся 22 трэнінгі для моладзі, у якіх удзельнічалі больш за 300 чалавек.**

Па мэтадалёгіі праекту людзі, якія прайшлі праз трэнінгі, павінны правесьці асьветніцкія мерапрыемствы сярод сваіх сяброў і знаёмых. У час такіх сустрэч вялася гаворка пра неабходнасьць спрычыняцца да будаваньня свайго лёсу і разьвязаньня уласных праблем і праблем грамадзтва на мясцовым узроўні.

У канцы жніўня адбылася выніковая канфэрэнцыя, на якой былі падведзеныя вынікі праекту і агучаныя дасягненьні ў яго рэалізацыі.

Плянуецца, што для лепшых выпускнікоў праекту увосені 2001 году пройдзе сэмінар па ўдасканальваньню прафэсійных навыкаў у галіне маладзёвай працы.

**Віталь Нікановіч**

# Распачаўся новы супольны праект

**Веды пра тое, як павялічыць эфэктыўнасьць працы сваіх арганізацыяў, а таксама карысную для дзейнасьці грамадзкіх аб'яднаньняў інфармацыю змогуць атрымаць удзельнікі новага праекту, над якім працуюць грамадзкія аб'яднаньні „Цэнтр "Трэці сектар" і „Віт".**

З кастрычніка гэтага году да красавіка 2002 году ў межах праекту адбудуцца трэнінгі, накіраваныя на павышэньне эфэктыўнасьці кіраваньня і паляпшэньне інфармацыйнай палітыкі ў грамадзкіх арганізацыях Гарадзеншчыны. Акрамя таго будзе створаная база зьвестак пра грамадзкія арганізацыі і ініцыятывы, сродкі масавай інфармацыі й мясцовыя ўлады, два Круглыя сталы, праведзеныя з удзелам журналістаў і прадстаўнікоў улады, а таксама Маладзёвы форум. Складнікам праекту, які фінансуецца із сродкаў дэмакратычнай праграмы TACIS таксама зьяўляецца і працяг выданьня часапіса „Трэці сэктар".

Праект накіраваны найперш на сяброў маладзёвых арганізацыяў, а таксама арганізацыяў, якія актыўна працуюць з моладзьдзю.

Да канца кастрычніка пра жаданьне ўзяць удзел у праекце заявілі 23 грамадзкія арганізацыі і ініцыятывы Гарадзеншчыны.

## Разьвіваем грамадзкі сэктар

**7 кастрычніка ў Слоніме праходзіў сэмінар для сяброў маладзёвых грамадзкіх арганізацыяў і моладзі Гарадзенскай вобласьці. Тэмай навучаньня было „Эфэктыўнае разьвіцьцё грамадзкага сэктару Гарадзеншчыны"**

Удзел у ім узялі маладыя людзі з Ваўкавыску, Дзятлава, Зэльвы, Мастоў і Слоніму. Курс складаўся з наступных аспэктаў: „Плянаваньне ролі НГА ў грамадзтве", „Лідарства" ды інш. Сэмінар быў арганізаваны Слонімскай маладзёвай арганізацыяй „Ветразь", а асноўным трэнэрам была Сьвятлана Кавальчук з трэнэрскай групы „Рэй" (Наваградак).

**Андрэй Мялешка**